ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 15 (114) 21 – 27 красавіка 1995 г. Кошт 300 рублёў

Спадары дэпутаты!

Мінула амаль пяць гадоў дзейнасьці Вярхоўнага Савета,у якім усё вызначала і вызначае былая камуністычная наменклатурная большасьць. Які ж вынік вашай дзейнасьці за пяць гадоў, спадары дэпутаты? Што вы нарабілі,што вы натварылі? Пяць год назад у нас быў аднолькавы жыцьцёвы узровень , як у краінах Балтыі. Але краіны Балтыі пайшлі па шляху свабоды і эканамічных рэформаў і цяпер ужо пачынаюць карыстацца пладамі сваёй разумнай палітыкі. Беларусь жа, дзякуючы перш за усё вашай дзейнасьці, пакацілася ў яму жабрацтва, разбурэньня эканомікі, інфляцыі. Ад рэформаў адмовіліся, краіну абрабавалі, народ абакралі, маёмасьць "прыхватызавалі". У людзей забралі грошы, уклады, аблігацыі, не далі ні зямлі ,ні працы, ні нармальнага сацыяльнага забесьпячэньня. На кожную душу павесілі велізарную дзяржаўную пазыку.

І што ж прапануеце вы цяпер разам з вашым прэзідэнтам, якога вы прыдумалі, спадары наменклатурныя дэпутаты? Што прапануеце вы цяпер, "пад заслону", у канцы вашай бязплённай , разбуральнай дзейнасьці? Абакраўшы народ вы, топчучы Канстытуцыю і закон, прапануеце яму рэферэндум аб яго сьвятой беларускай мове, аб яго гістарычным сьцягу і гербу ва ўмовах жабрацтва, бязпраўя,інфармацыйнай блакады і поўнага беззаконьня.

Абакраўшы народ, вы прапануце грамадзкі раскол і грамадзкае супрацьстаяньне. Абакраўшы народ, вы гатовы прадаць незалежнасьць яго Бацькаўшчыны, кінуць яго пад эксплуатацыю сваёй і замежнай мафіі.Вось вынік вашай пяцігадовай дзейнасьці.

Мы, Дэпутаты Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту пратэстуем супраць зьдзеку над нашым народам, над нашай Айчынай,над Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь. Вычарпаўшы ўсе магчымасьці, у знак антызаконнасьці і згубнасьці вашых дзеяньняў, мы аб'яўляем галадоўку тут, у цэнтры гэтай залы. Пачынаем яе цяпер з гэтай хвіліны.

Мы патрабуем выкананьня Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь, свабоды слова і ліквідацыі цэнзуры, спыненьня рабаваньня народа і Бацькаўшчыны.

**Дэпутаты Вярхоўнага Савета**
**ад апазіцыі Беларускага**
**Народнага Фронту.**

**Тэкст зачытаны спадаром Зянонам Пазьняком на ранішнім паседжаньні Вярхоўнага Савету 11 красавіка 1995 года.**

## ПАТРАБАВАНЬНІ СЯБРОЎ АПАЗІЦЫІ НАРОДНАГА ФРОНТУ

1. Не прымаць супярэчную закону і Канстытуцыі ініцыятыву Прэзідэнта аб рэферэндуме. Выканаць у гэтым пытаньні Канстытуцыю і закон.

2. Адмяніць незаконны ўказ N 113 Прэзідэнта Лукашэнкі аб увядзеньні цэнзуры ў Беларусі і звальненьні з пасады галоўнага рэдактара "Народнай газеты".

Ліквідаваць манаполію прэзідэнцкай улады на сродкі масавай інфармацыі, паколькі гэта супярэчыць закону, Канстытуцыі і парушае правы чалавека.

3. Прыцягнуць да адказнасьці службовых асобаў, замешаных у карупцыі.

Спыніць незаконны судовы перасьлед дэпутата Сяргея Антончыка.

# ДЗІКАЕ ПАЛЯВАНЬНЕ ПРЭЗІДЭНТА ЛУКАШЭНКІ
## альбо хроніка наўмыснага злачынства

**10 красавіка. 17.50.**

Беларускі парламант, разглядаючы ініцыятыву Аляксандра Лукашэнкі аб правядзеньні рэферэндуму па чатырох пытаньнях (аб дзяржаўнай сымболіцы і мове, умацаваньні эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і прадастаўленьні прэзідэнту права роспуска Вярхоўнага Савета), прымае першы пункт адпаведнай пастановы, якім вызначае дату плебісцыту - 14 мая, адначасова з першым турам парламанцкіх выбараў. У гэты ж дзень пасьля завяршэньня паседжаньня сесіі парламанцкая Апазіцыя БНФ зьбіраецца для абмеркаваньня склаўшайся сітуацыі ў помніка Леніну на плошчы Незалежнасьці. Затым дэпутаты едуць на кватэру аднаго са сваіх калегаў, дзе прымаецца рашэньне аб абвяшчэньні наступнай раніцай галадоўкі пратэста супраць парушэньня прэзідэнтам Канстытуцыі.

**11 красавіка. 9.30 - 11.30.**

На ранішнім паседжаньні Вярхоўнага Савета прэзідэнт працягвае настойваць на правядзеньні рэферэндума. Апазіцыя абвяшчае галадоўку. Каля 15 чалавек выходзяць да парламанцкай трыбуны і сядаюць ля прэзідыума сесіі. Вярхоўны Савет адхіляе тры з чатырох пытаньняў рэферэндума, прапанаваных прэзідэнтам, з-за заканадаўчых несуадноснасьцяў. Аляксандр Лукашэнка заяўляе: "Вы з гэтага нічога не высмакчаце, Карпенкі ды Пазьнякі". Прэзідэнт таксама абвінавачвае дэпутатаў у нежаданьні супрацоўнічаць, у тым, што яны "выціраюць ногі" аб галаву дзяржавы. Ён заяўляе, што сваімі ўказамі спыніць дзейнасьць парламанта і прызначыць рэферэндум. Тым часам становіцца зразумела, што прэзідэнту перададзены сьпіс з 96 дэпутатаў, якія абвяшчаюць аб сваёй лаяльнасьці да яго і просяць працаўладкаваць іх у выканаўчыя вертыкалі ўлады. Калі гэта станецца, цяперашні Вярхоўны Савет пазбавіцца кворуму і ня зможа працягваць працу.

**11 красавіка. 11.40.**

Старшыня ВС М.Грыб прапануе спыніць разгляд пытаньняў аб рэферэндуме да наступнай раніцы, каб правесьці неабходныя юрыдычныя кансультацыі. Парламант згаджаецца.

**11 красавіка. 18.00.**

Чарговы дзень працы сесіі парламанта завершаны, але Апазіцыя працягвае галадоўку і не пакідае залы паседжаньняў. Калегі прыносяць пратэстуючым мінеральную ваду і матрацы.

**11 красавіка. 20.11.**

Начальнік галоўнага ўпраўленьня дзяржаўнай аховы Міхаіл Цесавец, які перайшоў на службу да прэзідэнта, прыходзіць у залу паседжньняў і паведамляе, што паступіла ананімная зьвестка аб падкладзенай бомбе ў Доме ўраду. Дэпутатам прапанавана пакінуць памяшканьне. Яны адмаўляюцца. Пры гэтым, абяцаюць садзейнічаць працы сапёраў.

**11 красавіка. 22.05.**

Беларускае тэлебачаньне пачынае рэпартаж аб ходзе сесіі парламанта. Тэндэнцыйнасьць тэлекампаніі, падпарадкаванай непасрэдна прэзідэнту, відавочная. Прыцягвае ўвагу той факт, што камянтатар за кадрам неаднаразова падкрэсьлівае: "Прэзідэнт імкнуўся вырашыць праблему мірнымі шляхамі, але вычарпаў усе магчымасьці".

**11 красавіка 23.00.**

Міхаіл Цесавец вяртаецца з начальнікам прэзідэнцкай аховы Вячаславам Каралёвым. Яны заяўляюць, што размаўлялі па тэлефону з Мечыславам Грыбам і той даў загад вызваліць памяшканьне. Аднак, зьвязаўшыся са сьпікерам, апазіцыянеры даведваюцца, што такой размовы не было. Тады Цесавец і Каралёў гавораць, што на гэты конт распарадзіўся сам прэзідэнт, які не жадае, каб хтосьці з дэпутатаў пацярпеў. Начальнік прэзідэнцкай аховы паводзіць сябе задзірліва. "Мы з вамі разьбярэмся пасьля 15 мая", - заяўляе ён дэпутатам. Цесаўца і Каралёва суправаджаюць каля 60 чалавек. Прыкладна 10 з іх - кароткастрыжаныя, у цывільных скураных куртках - супрацоўнікі аховы прэзідэнта. Астатнія - міліцыянты і сапёры. Першай ахвярай быў выбраны дэпутат Гюнтар, якога, паводле яголых слоў, імкнуліся адцягнуць ад галадаючых гвалтоўна. Пасьля вельмі карэктных размоў дэпутатаў з міліцыяй апошнія адступілі. Затым узяліся адцягваць Гюнтара Цесавец і Каралёў. Крыху пазьней гэтыя ж дзеяньні былі зьдзейсьнены ў адносінах да галоўнага рэдактара газеты "Свабода" Ігара Германчука. Аднак дэпутаты змаглі ўтрымаць Германчука і Гюнтара, трымаючы адзін аднаго за рукі.

**12 красавіка. 0.41.**

Сапёры завяршаюць агляд і адыходзяць, падпісаўшы пратакол, што ўзрыўнога прыстасаваньня ня знойдзена. З боку галадаючых пратакол падпісалі Алег Трусаў і Барыс Гюнтар. Дэпутаты высьвятляюць, што другіх супрацоўнікаў Дома ўраду ніхто нават не пытаўся эвакуяваць. Больш таго, у пад'езда стаіць "Мэрседэс" Аляксандра Лукашэнкі, што сьведчыць пра знаходжаньне ў будынку ягонага гаспадара. На думку дэпутатаў, у будынку парламанта знаходзіцца таксама шэф прэзідэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын і ўпраўсправамі прэзідэнта Іван Ціцянкоў.

**12 красавіка. 2.30.**

Дэпутат Валяньцін Голубеў, які пачуў за дзьвярыма залы паседжаньняў перамяшчэньне людзей і бразгаценьне зброяй, выглянуў у калідор, які быў запоўнены вайскоўцамі, узброенымі аўтаматамі і кулямётамі. Валянцін Голубеў ўздымае трывогу. Праз некалькі хвілін адначасова адчыняюцца ўсе дзьверы і ў залу ўрываюцца тры шыхты ўзброеных людзей, агульнай колькасьцю ў 200 чалавек: адны ў чорнай форме і масках, другія - у камуфляжы і з аўтаматамі, - (дэпутатаў у той момант было 19). Прыхадні пачынаюць біць дэпутатаў і выпіхваць іх з залы. Адзін з нападаючых у скачку б'е нагамі Зянона Пазьняка. Дастаецца і астатнім: адну з дзьвярэй адчыняюць галавой каардынатара парламанцкай Апазіцыі. Дэпутатаў б'юць прафесійна: па ныркам і нагам, а, спускаючы па лесьвіцы, яшчэ і аб поручні. Заламваючы рукі, дэпутатаў па тры -чатыры чалавекі літаральна закідваюць у міліцэйскія машыны. Праз 10 хвілін аперацыя завершана. Парламантарыяў развозяць у розныя раёны Менску. Аднаго з іх, Аляксандра Шута, дадаткова б'юць дубінкамі ў парку імя Янкі Купалы. Частка дэпутатаў зьвяртаецца ў пракуратуру, дзе дзяжурны рэгіструе іх заявы.

**12 красавіка. 3.30.**

Дэпутаты зьбіраюцца на плошчы Незалежнасьці і дамаўляюцца сустрэцца ў адным з нумароў гатэлю "Кастрычніцкі". На плошчы дэпутаты даюць журналістам першыя камянтары да здарэньня. У ацэнках яны былі адзінадушныя: "Фашызм прыйшоў на Беларусь".

**12 красавіка. 5.30.**

9 дэпутатаў праходзяць медыцынскі агляд. Камісія фіксуе нанесеныя ім цялесныя пашкоджаньні. У многіх пабітыя твары, на целе вялізныя сіняки. Дактары адмаўляюцца гутарыць з карэспандэнтамі: "Зразумейце нас правільна, мы выканалі свой абавязак, і невядома, чым гэта для нас скончыцца".

**12 красавіка. Раніца.**

Будынак Дома ўраду быў аточаны міліцыяй. Як паведамілі журналістам, у памяшканьні працягваюць шукаць узрыўное прыстасаваньне. Шуканьне цягнецца да 12 гадзін. Такім чынам, сесія ў прызначаны час не пачалася. Каля 9.30 ля выхаду са станцыі мятро "плошча Незалежнасьці" сабралося каля 200 пікетчыкаў з бел-чырвона-белымі сьцягамі. Амаль адразу міліцыя пачала адцiскаць іх у разьмешчаны недалёка сквер. Спроба дэпутатаў Вярхоўнага Савета абараніць выбаршчыкаў ні да чаго не прывяла: міліцыя працягвала свае дзеяньні. Каментуючы тое, што адбываецца, экс-сьпікер парламента С.Шушкевіч заклікаў да грамадзянскага непадпарадкаваньня і супраціўленьня антынароднаму рэжыму Лукашэнкі. Пасьля гэтага, зьбітыя ноччу парламентарыі імкнуліся правесьці прэс-канферэнцыю ў будынку гарсавета. Аднак іх і журналістаў туды не пусьцілі. Адзін з міліцэйскага атачэньня выкрыкнуў літаральна наступнае: "Усе прэтэньзіі да прэзідэнта ў пісьмовай форме".

**12 красавіка. 10.30.**

Дэпутаты Апазіцыі правялі прэс-канферэнцыю ў будынку Вярхоўнага Савету. Паралельна праходзіла паседжаньне прэзідыума Вярхоўнага Савета, на якім М.Грыб заявіў, што яшчэ ніколі Беларусь не была так блізка да грамадзянскай вайны. Другі член прэзідыума Б.Савіцкі сказаў, што Вярхоўны Савет альбо павінен аб'явіць адстаўку прэзідэнту, які зьдзейсьніў злачынства, альбо сам пайсьці ў адстаўку. Генеральны пракурор рэспублікі Васіль Шаладонаў паведаміў, што раніцай адбылася калегія пракуратуры, на якой адзінагалосна прынята рашэньне аб узбуджэньні крымінальнай справы паводле адбыўшыхся фактаў. Васіль Шаладонаў таксама заявіў, што званок аб замінаваньні будынка Дому ўраду паступіў не ад ананіма, а па ўнутранаму тэлефону прэзідэнцкай адміністрацыі. Прэзідыум ВС вырашыў пачаць сесію ў Доме ўраду ў 12 гадзін дня.

**12 красавіка. 12.00.**

Дэпутаты і журналісты прыехалі ў Дом ураду, аднак высьвятлілася, што міліцыянтам загадана журналістаў не пускаць увогуле, а дэпутатаў - па выбару. Паставы міліцыянт меў сьпіс дэпутатаў, якім уваход на сесію быў забаронены. Як растлумачыў гэта глава адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын, "мы хацелі прапанаваць Вярхоўнаму Савету вырашыць пытаньне аб магчымасьці ўдзелу гэтых дэпутатаў у працы сесіі". Паралельна, на вуліцы міліцыя ўчыніла яшчэ адну "патасоўку" с некалькімі сталымі жанчынамі, якія выказалі незадавальненьне падзеямі дня, хаця ані плакатаў, ані сьцягоў у іхніх руках не было. У той жа час пачалося паседжаньне савета бясьпекі, на якім дзеяньні Апазіцыі ацэньваліся як правакацыйныя.

**12 красавіка. 12.20.**

Старшыня ВС М.Грыб адправіўся на сустрэчу з А.Лукашэнкам. Праз паўгадзіны пасьля яго вяртаньня, журналістаў пусьцілі ў будынак Дома ўраду і ў залу паседжаньняў. Прыкладна ў гэты ж час у зале паседжаньняў зьявіліся міністр абароны РБ Анатоль Кастэнка і начальнік галоўнага ўпраўленьня дзяржаўнай аховы Міхаіл Цесавец, які кіраваў аперацыяй па вытурваньню дэпутатаў з будынка Дома ўрада. Яны выступілі з інфармацыйнымі паведамленьнямі на сесіі, у якіх абвінавацілі Апазіцыю ў зьдзяйсьненьні наўмысных правакацый. У зале ўзьнік канфлікт і патасоўка паміж некаторымі дэпутатамі Апазіцыі і Міхаілам Цесаўцом, які таксама зьяўляецца дэпутатам. Пабітыя парламентарыі патрабавалі, каб ён выйшаў з залы і імкнуліся дамагчыся гэтага асабіста, аднак за яго заступілася ахова.

**12 красавіка. 14.00.**

М.Грыб пасьля сустрэчы з Лукашэнкам адказвае на пытаньні журналістаў.

- Спадар Цесавец сьцьвярджае, што Вы санкцыянавалі эвакуацыю дэпутатаў?

- Я казаў, што калі існуе рэальная небясьпека жыцьцю, патрэбна эвакуяваць, а калі не - хай застаюцца. - Якую пазіцыю на паседжаньні прэзідыума занялі асабіста Вы?

- Як заўсёды, ўзважаную. Я не схіляюся ні да аднаго з бакоў, а зараз імкнуся разабрацца ў сітуацыі, што склалася. Мая галоўная мэта - недапусьціць кравапраліцьця. Мы апынуліся на самым краі. Я і ў прэзідэнта быў, і з Сініцыным размаўляў. Прэзідэнт кажа, што будынак Дома ўраду - яго рэзідэнцыя, і што ён нікому не дазволіць парушаць парадак у ёй, нават дэпутатам. Прэзідэнт таксама гаворыць, што ён быў у курсе ўсіх начных падзей, яму дакладвалі.

- Парламант прыме якое-небудзь рашэньне па начному інцэдэнту?

- На прэзідыуме мы вырашылі падрыхтаваць палітычную заяву з характарыстыкай палітычнай сітуацыі ў краіне напярэдадні выбараў.

- Але, калі Лукашэнка заяўляе, што ён аб усім ведаў, і вырашыў не дапусьціць парушэньняў у сваёй рэзідэнцыі, то бомба тут ні пры чым?

- Так, сапраўды, гэтае пытаньне вельмі важнае, але лепш пацікавіцца ў самога прэзідэнта.

- Пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факту зьбіцьця ці выкрыцьця бомбы?

- Як я зразумеў з адказа Шаладонава на прэзідыуме ВС, справа ўзбуджана па факту зьбіцьця. Аднак я лічу, што сам факт магчымасьцей выкрыцьця бомбы ў будынку Дома ўраду - ужо крымінальны.

- Спадар Шаладонаў заявіў, што званок паступіў не па ананіму, а па ўнутранаму тэлефону...

- Так, генеральны пракурор сказаў менавіта так.

- Сёньня ў Авальную залу не пускалі журналістаў, чаму?

- Прэзідэнт мне заявіў, што такіх распараджэньняў ён не даваў. Як толькі я да яго зьвярнуўся, пытаньне было зьнята.

- А дэпутатаў ад Апазіцыі?

- Прэзідэнт заявіў, што парушылі ўчора парадак. А калі яны будуць сябе весьці так, як іншыя дэпутаты, дык нічога супраць гэтых парламентарыяў прэзідэнт ня мае.

- Ці абмяркоўвалася пры вашай сустрэчы з Лукашэнкам пытаньне аб роспуску парламанта?

- Прэзідэнт мяне запэўніў, што ён ня будзе прымаць ніякіх рашэньняў аб роспуску парламанта. Тэма пераноса даты выбараў на сустрэчы не гучала.

- Ці не выключаеце вы магчымасьць пастаноўкі пытаньняў прэзідэнцкага рэферэндума на паўторнае галасаваньне парламантарыяў?

- Прэзідыум абмяркоўваў гэтыя пытаньні і прыйшоў да высновы, што ставіць на перагаласаваньне пытаньне рэферэндума ня варта.

- Прэзідэнт зноўку настойвае на правядзеньні рэферэндума па чатырох пытаньнях?

- Так, сапраўды. Прэзідэнт настойвае на правядзеньні рэферэндума па чатырох пытаньнях, прычым яны будуць насіць абавязковы характар.

**12 красавіка. 16.05.**

У самым пачатку вячэрняга паседжаньня сесіі Вярхоўнага Савета слова ўзяў лідэр Апазіцыі БНФ Зянон Пазьняк і заявіў: "Парламант, у які былі ўведзены войскі, - ужо не парламант. Таму мы ня можам заставацца ў гэтай зале. Мы адыходзім, але працягнем галадоўку ў іншым месцы. Пасьля гэтых слоў дэпутаты ад Апазіцыі пайшлі з Авальнай залы.

**(Працяг на другой старонцы.)**

# ДЗІКАЕ ПАЛЯВАНЬНЕ ПРЭЗІДЭНТА ЛУКАШЭНКІ

## альбо хроніка наўмыснага злачынства

**(Працяг. Пачатак на першай старонцы)**

Адказваючы на пытаньне карэспандэнтаў, дзе плануюць працягнуць галадоўку парламентарыі, кардынатар фракцыі БНФ С.Навумчык паведаміў, што яны вырашылі працягнуць акцыю пратэсту ў будынку апарата ВС на вуліцы К.Маркса. Аднак, спадар Навумчык не выключыў, што ў гэтым будынку ім не дазволяць правесьці галадоўку і прыйдзецца шукаць іншае месца.

**12 красавіка. 16.10.**

Слова прадстаўлена прэзідэнту. Выступаючы перад дэпутатамі, А.Лукашэнка паведаміў, што ён быў у курсе ўсяго, што адбылося мінулай ноччу ў Авальнай зале. Спадар Лукашэнка сказаў, што пасьля атрыманьня інфармацыі аб замінаваньні будынку, зьбіраўся нават асабіста прыехаць на месца здарэньня. Аднак служба аховы забараніла яму гэта зрабіць, і ён вымушаны быў падпарадкавацца. А.Лукашэнка таксама зазначыў: "Ніхто бы з голаду тут не памёр. І, барані Божа, хай галадавалі б. Насьмяшылі людзей, кінулі пляму на гэты парламант, якому засталося працаваць два дні. Я адразу паставіўся да гэтага з гумарам і падумаў пра правакацыю, але мне патэлефанаваў міністр абароны Кастэнка і сказаў, што ўсякае можа быць, і нельга скідаць з рахунку жыцьцё гэтых людзей. Калі што адбудзецца, адказваць будзем мы - выканаўчая ўлада". Акрамя таго спадар Лукашэнка папракнуў дэпутатаў-апазіцыянераў у тым, што яны парушылі парадак у Доме ўраду, які, па словах прэзідэнта, зьяўляецца рэжымным дзяржаўным аб'ектам. Супярэчлівымі і непраўдападобнымі выглядалі довады прэзідэнта аб тым, што парламантарыяў ніхто ня біў. А.Лукашэнка ў прыватнасьці сказаў: "Яны дарослыя людзі. Яны ведалі на што шлі. Кагосьці "жманулі". Ну чаго ж вы плачаце. Ды ніхто нікога ня біў. Усё гэта адзьнята. Дзесьці каля дванаццаці ночы мне патэлефанаваў Міхаіл Цесавец, і са сьлязьмі ў вачах паведаміў, што не атрымліваецца па-добраму эвакуяваць дэпутатаў. Павымалі нажы, дасталі лёзы і гавораць: першае - ускрываем сабе вены, адразаем сабе галовы і вас павырэзваем. Такія пагрозы ў рэзідэнцыі прэзідэнта - ужо занадта. Прыйшлі сюды. Адпрацавалі. Суха, чыста, цёпла. Калі ласка, пасьля працы - дахаты. Я ім больш не дазволю тут галадаваць. Такая галадоўка нікому не патрэбная і таму яны пайшлі шукаць іншае месца. Няхай! Але ў дзяржаўнай установе, хай гэта ўрадавы будынак ці Вярхоўны Савет, што для мяне тое самае, галадовак не будзе". А.Лукашэнка таксама абвінаваціў прэсу ў нагнятаньні сітуацыі: "Расейскае радыё паведаміла, што Беларусь як ніколі блізкая да грамадзянскай вайны. Я даручыў зараз упраўленьню інфармацыі і КДБ знайсьці журналіста, які перадаваў гэтую інфармацыю. Журналісты расейскіх радыё, я хачу вам заявіць. Зьбірайцеся і ад'яжджайце зараз жа ў Маскву, пакуль мы не знайшлі вас". Зьвяртаючыся да прысутнага ў зале паседжаньняў уласнага карэспандэнта "Известий" Аляксандра Старыкевіча, іранічна ўспрыняўшага пагрозу прэзідэнта, спадар Лукашэнка заявіў: "Пасьля сьмяяцца будзе позна. Так, так, Аляксандр, ніхто ня даў Вам права распальваць тут страсьці. Хаціце працаваць - давайце разам працаваць на блага народа". Калі ж Аляксандр Старыкевіч пасьля выступленьня прэзідэнта пачаў адыходзіць з залы, спадар Лукашэнка зноў ня вытрымаў: "Паважаныя народная дэпутаты! Зьвярніце ўвагу на журналістаў. Сумленныя журналісты - яны сядзяць. А гэтыя падняліся і пайшлі па зале "в розвалочку". Ды навядзіце вы хоць у гэтай зале парадак, каб яны, заходзячы сюды, дрыжалі".

**12 красавіка. 22.00**

Стала вядома, што ўвечары дэпутаты ад Апазіцыі разам з прадстаўнікамі СМІ прыехалі ў Вярхоўны Савет, каб працягнуць акцыю пратэсту. Але ахрана ВС заявіла, што будзе прапускаць іх толькі па аднаму ў службовыя кабінеты і не дазволіць праводзіць нейкія мерапрыемствы, акрамя чыста працоўных. На думку парламантарыяў, калі б яны распрануліся, гэта дазволіла б прэзідэнцкай каманьдзе арганізаваць супраць іх чарговыя правакацыі. У сітуацыі, якая склалася, дэпутаты прынялі рашэньне спыніць галадоўку.




## ЗАЯВА
### аб спыненьні палітычнай галадоўкі

11-га красавіка 1995 года ў 9.25 беларускага часу мы, група дэпутатаў Вярхоўнага Савета Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту, у колькасьці 19 чалавек, пратэстуючы супраць грубых парушэньняў Канстытуцыі і законаў дзяржавы Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам, супраць згубнай палітыкі Прэзідэнта і большасьці Вярхоўнага Савета, якая накіравана на канчатковае разбурэньне нашай эканомікі, незалежнасьці нашай дзяржавы і раскол грамадзтва шляхам правядзеньня незаконнага рэферэндуму, вымушаны былі пайсьці на крайнюю меру - аб'явіць палітычную галадоўку проста ў зале Вярхоўнага Савета. Аднак пасьля таго, як ноччу з 11-га на 12-га красавіка ў залу сесіі Вярхоўнага Савета, дзе мы праводзілі палітычную акцыю галаданьня, былі ўведзены вайсковыя фармаваньні, узброеныя аўтаматамі і дубінкамі ў колькасьці некалькіх сот чалавек, якія напалі на нас, прымянілі фізічную сілу, зьбілі да крыві многіх дэпутатаў непасрэдна ў зале паседжаньняў парламанта і груба вывалаклі на вуліцу, зважаючы таксама на няспынныя пагрозы нашаму жыцьцю, якія зыходзяць ад розных сілавых структураў, падпарадкаваных прэзідэнту А.Лукашэнку, мы ня можам прадаўжаць палітычную галадоўку. Гвалтоўным незаконным спосабам нас пазбавілі магчымасьці праводзіць грамадзкую акцыю, чым груба парушылі нашы грамадзянскія, чалавечыя правы, дэпутацкую недатыкальнасьць, Канстытуцыю і Закон аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

12 красавіка ў 20 гадзін 25 хвілін мы, знаходзячыся ў будынку Вярхоўнага Савета, прынялі рашэньне аб спыненьні галадоўкі.

**Дэпутаты Апазіцыі БНФ:**
**З.Пазьняк, В.Голубеў, Л.Баршчэўскі, А.Шут, С.Навумчык, У.Заблоцкі, С.Антончык, А.Трусаў, В.Малашка, М.Крыжаноўскі, Б.Гюнтар, П.Садоўскі, Л.Зданевіч, М.Маркевіч, Л.Дзейка, І.Германчук, С.Папкоў, Ю.Беленькі, М.Аксаміт.**

# ЗША АСУДЖВАЮЦЬ ПРЫМЯНЕНЬНЕ СІЛЫ НА БЕЛАРУСІ

**Прэс-рэліз Дзярждэпартамента ЗША**

13 красавіка афіцыйным прадстаўніком Дзяржд эпартамента ЗША Нікаласам Бернсам зроблена наступная заява:

Злучаныя Штаты з вялікай трывогай аднесьліся да паведамленьня пра тое, што 19 членаў беларускага парламанта былі ноччу 11 красавіка гвалтоўна выведзены з будынка парламанта сьпецыяльнымі паліцэйскімі сіламі. Памянёныя парламантарыі ўдзельнічалі ў галадоўцы ў знак пратэсту супраць нацыянальнага рэферэндуму 14 траўня, які Прэзідэнт мае намер правесьці, што, на іх думку, было б парушэньнем палажэньняў беларускай Канстытуцыі. Мы лічым прымяненьне сілы супраць мірных дэманстрантаў непрымальным пры любых абставінах. Мы асабліва заклапочаны паведамленьнямі аб тым, што сіла супраць членаў парламанта была прымененая ў самой зале паседжаньняў парламанта.

Злучаныя Штаты асуджаюць факт прымяненьня сілы і рашуча заклікаюць да вырашэньня палітычных рознагалосьсяў мірнымі і дэмакратычнымі сродкамі пры захаваньні правоў і законнасьці.

## ЗАЯВА
### амбасады Злучаных Штатаў аб палітычных падзеях у Беларусі

Амбасада Злучаных Штатаў Амэрыкі з вялікай заклапочанасьцю разглядае разьвіцьцё палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Асаблівую трывогу Амбасады выклікалі паведамленьні аб прымяненьні сілы ў адносінах да дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў зале паседжаньняў.

Злучаныя Штаты настойліва заклікаюць да вырашэньня палітычных разнагалосьсяў мірным і дэмакратычным шляхам пры поўным захаваньні правоў чалавека ў суадносінах з міжнароднымі пагадненьнямі, падпісанымі Беларусьсю.

# БЕЛАРУСКІ САЮЗ У ПОЛЬШЧЫ ПРАТЭСТУЕ СУПРАЦЬ НЕЗАКОННЫХ ДЗЕЯНЬНЯЎ ЛУКАШЭНКІ

Беларусі саюз, які стварылі восем арганізацый беларусаў у Польшчы - Беларускае дэмакратычнае аб'яднаньне, Беларускае аб'яднаньне студэнтаў, Асацыяцыя беларускіх журналістаў, Беларускае гістарычнае таварыства, Літаратурнае аб'яднаньне "Белавежа", "Праграмная рада "Нівы", Беларускае таварыства "Хатка" у Гданьску і Зьвяз беларускай моладзі - выступіў з пратэстам супраць прымяненьня сілы прэзідэнцкімі людзьмі ў адносінах да галадаючых дэпутатаў. Прэзідэнт Лукашэнка, як лічаць дзеячы Беларускага саюзу, сваімі неканстытуцыйнымі паводзінамі зьніжае ранг беларускай дзяржавы ў сьвеце.

На пытаньне журналіста беластоцкага дадатку "Gazety Wyborczaj", ці плануюцца нейкія акцыі супраць Лукашэнкі, пісьменьнік і ганаровы Старшыня БДА Сакрат Яновіч, адказаў: "Мы - грамадзяне Польшчы, і таму ня можам умешвацца ў справы іншай дзяржавы. Мы можам толькі маральна асуджваць такія ўчынкі".

**Мікола ВАЎРАНЮК,**
**г.Беласток.**

**Дэпутатам Н.Гілевічу, З.Пазьняку**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь**

13 красавіка 1995 года, Вільня

Сёньня 4 члены Сейма Летувіскай Рэспублікі ўручылі Е.Вайтовічу, прадстаўніку Рэспублікі Беларусь у Летуве, пратэст супраць парушэньняў дэпутацкай недатыкальнасьці ў Вярхоўным Савеце Беларусі, Пратэст адрасаваны Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь, Прэзідэнту і ўраду Беларусі.

Просім прадаставіць нам інфармацыю па гэтаму пытаньню, так як 18 красавіка мы зьбіраемся абмеркаваць гэтае пытаньне ў Сейме Летувы.

**Альгірдас ЭНДРУКАЙЦІС,**
**член Сейма.**

## ЗАМЕСТ КАМЕНТАРА:

Падзеі ночы "доўгіх нажэй", якія адбыліся 12 красавіка ў Авальнай зале, фактычна ёсьць хронікай дзяржаўнага перавароту на Беларусі. Пасьля гэтай ночы мы з вамі "дэ факта" жывем у дзяржаве з аўтарытарным паліцэйскім рэжымам фашысцкага тыпу. У дзяржаве, дзе не выконваюцца законы і Канстытуцыя, дзе не гарантуюцца нават асноўныя правы і свабоды асобы, дзе ўся ўлада - заканадаўчая, выканаўчая, судовая - сканцэнтравана ў руках чалавека, для якога асноўная мэта існаваньня -гэта толькі жаданьне захаваць асабістую ўладу. Любым коштам, любымі сродкамі, не спыняючыся ні перад чым.

Пацярпеўшы поўны правал у сваёй эканамічнай і сацыяльнай палітыцы (адсутнасьць палітыкі - таксама палітыка), давёўшы народ да галечы і жабрацтва, Аляксандр Лукашэнка выдатна ведае, што рана ці позна яму прыдзецца несьці адказнасьць за тую хлусьню, дзякуючы якой дзевяць месяцаў назад ён стаў прэзідэнтам. Вось чаму ён зараз спрабуе "іграть мускуламі". Мэта - застрашыць людзей, давесьці да такога стану, пры якім , як сказаў паэт, "і крыкнуць ня можаш "ратуйце", і мусіш ты "дзякуй" крычаць". Вось чаму Лукашэнка робіць усё магчымае дзеля таго, каб як мага хутчэй зьліквідаваць Беларусь як дзяржаву, прадаўшы яе за бясцэнак расейскім мафіёзі. Вось адкуль растуць ногі ў лукашэнкаўскага незаконнага рэферэндуму: няма дзяржавы - няма перад кім несьці юрыдычную адказнасьць.

"Разделяй и властвуй". Гэты прынцып заўсёды быў на ўзбраеньні ашуканцаў, якія мелі мала розуму і шмат амбіцыяў. Ці не паўтараецца тое ж самае цяпер і ў нас - на Беларусі? Адных - застрашыць, другіх - дапусьціць да "карыта" вертыкалі, трэціх - уцягнуць у барацьбу з ветранымі млынамі, у бясплодныя дыскусіі і бataліі, якія ні на ёту не дабавяць ні хлеба, ні каўбасы, ні іншых даброт. Але Лукашэнку гэта не цікавіць. Ён з задавальненьнем будзе паціраць рукі, назіраючы за тым, як кіруемыя ім жабракі счапіліся ў бойцы адзін з другім, забыўшыся пра аўтара гэтага злачыннага сцэнару. Пакуль грамадзтва будзе расколата, пакуль яно ня знойдзе сілы для кансалідацыі намаганьняў па выхаду з крызісу, дагэтуль кіраваць ім могуць нават такія, як Аляксандр Рыгоравіч.

Што ж рабіць у гэтай сітуацыі? Самы просты адказ - не выконваць злачынных загадаў. Трагедыя сталінскіх рэпрэсіяў, трагедыя ахвяраў Курапатаў ня толькі ў тым, што дзяржавай кіраваў камуна-фашыст Сталін, але і ў тым, што знаходзіліся такія, што стралялі людзям у патыліцы. У нас да гэтага яшчэ, дзякуй Богу, не дайшло. Але можа дайсьці. Зьвер, які адчуў пах крыві, ужо ня спыніцца - гэта закон прыроды. Не дамо ўзмацніцца злачыннаму рэжыму да такой ступені, пасьля якой змагацца з ім ужо будзе немагчыма. Гэта нашае права, гэта наш абавязак. Абавязак перад сваімі бацькамі, якіх катавалі ў Курапатах, перад сваімі дзецьмі, якія павінны жыць у багатай і цывілізаванай дзяржаве Беларусь!

Я не заклікаю ісьці на барыкады. Я праšу Вас, на гэтых выбарах і на гэтым рэферэндуме, ня дайце сябе яшчэ раз ганебна ашукаць, правесьці на мякіне. Думайце пра сябе, пра ўласны дабрабыт, пра сваіх дзяцей. Думайце, думайце, думайце! Аналізуйце: у Эстоніі, дзе на ўзбраеньне ўзятая эканамічная праграма Беларускага Народнага Фронту, у лютым 1995 года ў параўнаньні з сьнежням 1994 г. цэны ў сярэднім ўзрасьлі на 6,4 працэнта. На Беларусі ж за аналагічны перыяд - на 90 працэнтаў! Там ва ўладзе "правыя", якія думаюць пра інтарэсы свайго народа. У нас на Беларусі пры ўладзе як былі, так і засталіся "левыя" - камуністы. Яны увесь час сьпяваюць пра сацыяльную справядлівасьць, незаконных катэджы і барацьбу з мафіяй. Але думаюць, на жаль, пра камуністычную "дружбу народаў", маючы на ўвазе сяброўства з расейскімі міліярдэрамі Чарнамырдзінымі, Няверавымі і К. Між тым, гэтае сяброўства штогод каштуе кожнаму з 10 мільёнаў жыхароў Беларусі 260 долараў. Менавіта столькі мы з Вамі губляем толькі па той прычыне, што спадары Чарнамырдзін і Нявераў "сябруюць" са спадаром Лукашэнкам.

Выбірайце: Вам больш да спадобы слухаць пра "справядлівасьць" і "дружбу народаў" ці мець стабільныя цэны? Вам лепш сябраваць з усім сьветам, ці толькі з кіраўнікамі "Газпраму" і "Гермесу"?

**Мікола МАРКЕВІЧ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі.**

# ГРАМАДЗТВА

## НЕ МАГУ ПАГАДЗІЦЦА, СПАДАР ЛУКАШЭНКА

Прачытаў я ў N 112 "Пагоні" артыкул У.Кіселя з Горадні "Аб чым маўчаць нельга" і вырашыў таксама, каб мой голас супраць рэферэндума, які навязвае прэзідэнт РБ Лукашэнка, пачулі ўсе сумленныя грамадзяне нашай Бацькаўшчыны.

Сапраўды, маўчаць сёньня нельга, таму што гіне беларуская мова і культура, гіне беларуская нацыя. Хочацца ад крыўды нават крычаць, каб пачуў і сам прэзідэнт, але чамусьці ён беларусаў ня чуе, ці ня хоча чуць, а добра толькі чуе гарлапанаў і рускіх пісак, якія тут у Беларусі займаюць высокія кіруючыя пасады, сядзяць у цёплых пакоях і скураных фатэлях, а беларусы іх сытна кормяць, таму, што ні адзін расеец не працуе тут у Беларусі на зямлі калгаса, саўгаса ці на ферме.

Вельмі балюча чуць, калі прэзідэнт абражае беларускую мову, сымболіку, калі ён патрыётаў сваёй Бацькаўшчыны называе "нацыяналістамі"...

Таму не магу пагадзіцца з тым, што А.Р.Лукашэнка сябе лічыць беларусам. Вельмі не стасуюцца яго пасада, яго дзеяньні да ўсяго беларускага. Калі прэзідэнт і навяжа гэты рэферэндум, то, на маю думку, прыняць удзел павінны толькі беларусы і каранныя жыхары другіх нацыянальнасьцей, якія пражывалі тут да пачатку Другой сусьветнай вайны. Гэта будзе справядліва, таму што лёс дзяржавы, якая завецца Рэспубліка Беларусь, павінны вырашаць не расейцы, а людзі, чые карані тут, на зямлі беларускай.

**Р.ЯРМАЛОВІЧ, г.Ваўкавыск.**

## ВАЙНА АДНА, А ВЕТЭРАНЫ РОЗНЫЯ

Больш дзесяці разнастайных ветэранскіх арганізацый рэпрэзентаваў вядучы - спадар У.Амелька - прадстаўнікам СІМ на прэс-канферэнцыі, якая была наладжана пры Гарадзенскім аблвыканкаме. У тым ліку альтэрнатыўнае аб'яднаньне дэмакратычных ветэранаў Горадні.

Нягледзячы на шматлікасьць ветэранскіх арганізацый, ветэранам прыходзіцца вырашаць шмат надзённых пытаньняў самастойна. Хто не выходзіў да мікрафона - наракаў на недахопы. Наракаць жа ветэранам ёсьць на што. Сёньня яны саматуж вырашаюць праблему харчаваньня, лекаваньня, жыльля, а перад усім гэтым вярэдзіць душу ветэранам і сьвяткаваньне 50-х угодкаў Перамогі. Як яе сьвяткаваць? Верагодна, што большасьць лідэраў афіцыйных ветэранскіх арганізацый схільна сьвяткаваць дзевятае траўня як перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне. Але як жа быць з тымі, хто ў шэрагах іншай арміі браў удзел у баях супраць войскаў гітлераўскай Нямеччыны. Асабліва актуальна стаіць пытаньне тут, на Гарадзеншчыне. З 283 тысяч ветэранаў - значная частка тых, хто бараніў тагачасную Польшчу ад нямецкай навалы. Многія з іх дагэтуль ня маюць пасьведчаньняў удзельнікаў Другой Сусьветнай вайны. Іх нельга абразіць, нельга забыць, нельга выкінуць з гісторыі. Менавіта пра гэта і казаў прысутным старшыня ДАВ спадар Мікола Мельнікаў. Рада дэмакратычнага аб'яднаньня дала згодуісьці ў адной калоне ветэранаў, але пад гістарычнымі дзяржаўнымі сымбалямі. Непадабалася гэта многім, але ад рэчаіснасьці нельга зьбегчы, як нельга выракчыся памяці.

**Г.УРБАНОВІЧ.**




**АЛЯКСАНДАР РЫГОРАВІЧ, ЦУДАЎ НЕ БЫВАЕ**

## 98 САМАЛЁТАЎ «ПАД НОЖ»

З 12 па 14 красавіка ў Маскве адбудзецца рабочая сустрэча кіраўнікоў верыфікацыйных нацыянальных органаў Міністэрстваў абароны краін СНД. На сустрэчы абмяркоўваецца пытаньне каардынацыі дзеяньняў падчас рэалізацыі дагавора аб "ОВСЕ" і "адкрытаму небу". Дадаткова беларускім бокам зьдзяйсьняюцца двухбаковыя кансультацыі аб парадку зьнішчэньня 98 самалётаў марской авіяцыі наземнага базіраваньня, пакінутых Расеяй пасьля вываду дыслакаванай у Быхаве авіяцыйнай дывізіі.

**СІМ**

## ПРЭЗІДЭНТ ШЧЫРЫ Ў ПАЖАДАНЬНЯХ, АЛЕ ДА КСЯНДЗОЎ БУДУЦЬ ПРЫНЯТЫ МЕРЫ

Адбылася прэс-канферэнцыя намесьніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта М.Сазонава. Ён паведаміў, што назіраньне за парламанцкімі выбарамі ўскладзена на яго. Спадар Сазонаў пакрыўдажаў, што сярод зарэгістраваных кандыдатаў мала юрыстаў і эканамістаў. Гэта, па словах Сазонава, надзвычайна турбуе прэзідэнцкую каманду. На думку спадара кіраўніка адміністрацыі, парламант абавязаны займацца не палітыканствам, а заканадаўствам. Прэзідэнту хочацца, каб будучы парламант працаваў з ім ва ўнісон. Разьвіваючы гэтую думку, М.Сазонаў заявіў: "Безумоўна, выканаўчая ўлада мае свой інтарэс на выбарах".

Яшчэ кіраўнік адміністрацыі згадаў, што ён нядаўна вярнуўся з турнэ па Беларусі, дзе вывучаў сітуацыю напярэдадні выбараў. У прыватнасьці спадар М.Сазонаў заўважыў: "Мяне моцна турбуе і зьдзіўляе тое, што ў касьцёлах ідзе прапаганда БНФ, прычым, большасьць ксяндзоў не грамадзяне Беларусі. Калі сітуацыя ня зьменіцца, то мы прымем захады і парушэньне закона не пакінем без увагі". Аднак на пытаньне, у чым гэта можа адлюстравацца, спадар Сазонаў адказаць ня здолеў.

Каментуючы ўказ прэзідэнта аб забесьпячэньні роўных магчымасьцяў кандыдатам ў дэпутаты, Сазонаў сказаў, што прэзідэнт, выдаючы ўказ, "быў шчыры ў сваіх пажаданьнях".

**СІМ**

## АКАДЭМІКУ БАРЫСУ КІТУ – 85 ГАДОЎ

Цяжка ўявіць сабе, што гэтаму энэргічнаму, поўнаму планаў і праектаў, няўрымсьліваму рупліўцу беларускага дзяржаўнага іміджа і нацыянальнай Годнасьці - ужо 85! Масьціты вучоны атрымаў ў 1991 годзе сусьветна вядомы тытул Акадэміка Міжнароднай акадэміі атранаўтыкі. Летась ён стаў адным з заснавальнікаў і віцэ-прэзідэнтам міжнароднай акадэміі "Эўразія", дзейнасьць якой адпавядае галоўнай ідэі жыцьця Юбіляра - Беларусь павінна заняць пачэснае месца ў Эўропе, якое ёй належыць па праву. І гэта дамінанта сёньняшняй дзейнасьці Барыса Уладзіміравіча, яго настойлівых штодзённых пошукаў новых шляхоў і крыніц рэалізацыі навуковых і педагагічных праектаў на Бацькаўшчыне, далучэньня беларускіх навукоўцаў да агульнаэўрапейскага навукова-культурнага супольніцтва, разважлівы аналіз сваёй педагагічнай і навуковай спадчыны і падкрэсьленае асэнсаваньне сваёй высокага навуковага рэйтынгу, як сына зямлі беларускай.

Тым самым сёньня Барыс Кіт дапамагае нам выжыць, не згубіць веру ў свае сілы і магчымасьці, не заблытацца ў пошуках "лепшай долі", бо ў нялёгкім кітаўскім шляху да навуковага Алімпу заўсёды была вера ў беларускую ідэю, любоў да роднай зямлі. Менавіта таму багаты архіў акадэміка Б.У.Кіта апынуўся ў Навагрудзкім гісторыка-краязнаўчым музеі - месцы, дзе лёс беларускай гімназіі назаўсёды прыкіпеў да сэрца яе былога вучня. Тутэйшая экспазіцыя, прысьвечаная наваградскаму вучню і педагогу, зьяўляецца "разынкай" музея, выхоўвае "па-кітаўскі" юных наваградцаў, як ім трэба ставіцца да жыцьця і сваёй Радзімы. Прыемна, што ў Карэлічах, дзе прайшло маленства Барыса Уладзіміравіча, таксама рупяцца аб адлюстраваньні яго незвычайнага жыцьцёвага шляху ў экспазіцыі ствараемага мясцовага музея.

Нам, гарадзенцам, ёсьць чым ганарыцца ў адносінах да гэтай магутнай постаці. Першай беларускай ВНУ, якая надала Б.Кіту тытул ганаровага доктара навук, стаў Гарадзенскі дзяржуніверсітэт імя Я.Купалы. З ініцыятывы рэктара універсітэта прафесара Л.Ківача, у мінулым годзе ўпершыню адбыўся візіт Б.Кіта ў наш старажытны горад. А напярэдадні юбілею акадэміка прыйшла прыемная навіна ад мастачкі Раісы Сіплевіч з Менску, якая намалявала партрэт Б.У.Кіта для Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Будзем спадзявацца, што тым самым зроблены пачатак стварэньню галерэі славутых людзей Гарадзеншчыны, у якой пачэснае месца зойме кітаўская экспазіцыя - адлюстраваньне жыцьцёвага і навуковага шляху чалавека, які быў не астатнім сярод выдатнейшых навукоўцаў, стварыўшых магчымасьць апанаваньня сынамі зямлі касьмічнай прасторы.

**А.МАЙСЯЁНАК, Старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.**

## ПРЭЗІДЭНЦКАЯ КАМАНДА ЗАСЬПЯШАЛА Ў ДЭПУТАТЫ

Некалькі вядомых у рэспубліцы палітычных дзеячоў вырашылі балатавацца ў берасьцейскай вобласьці. Памочнік прэзідэнта па асобым даручэньням Віктар Кучынскі зноўку балатуецца ў Кобрыне. На сваёй радзіме, у Маларыце, вылучаны ад сацыяльна-спартыўнай партыі алімпійскі чэмпіён па цяжкай атлетыцы Л.Тараненка. Экс-лідэр партыі "ВЕС", старшыня праўленьня Грамадзка-культурнага аб'яднаньня "Палесьсе" Мікалай Шэляговіч ідзе па адной з акругаў Пінска. У Іванаўскім раёне вылучаны Партыяй народнай згоды памочнік намесьніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Пятро Шушма. Па выбарчай акрузе мястэчка Ружаны падтрымана кандыдатура экс-міністра абароны, сёньня віцэ-прэзідэнта Беларускага аб'яднаньня "Лус" Паўла Казлоўскага. Нечакана ў Лагішынскай выбарчай акрузе Пінскага раёна перасякліся кандыдацкія памкненьні экс-рэдактара "Народнай газеты" Іосіфа Сярэдзіча і намесьніка рэдактара "Звязды" Уладзіміра Андрыевіча.

**СІМ**

## «БРАНІРАВАНЫ КУЛАК» ПЕРАД НОСАМ У ПАМЁРЛЫХ І Ў НАС

**У Зэльве насупраць кафэ "Сустрэча," ля аўташашы Ваўкавыск-Слонім мяркуецца ўстанавіць помнік, як сымбаль воінскай доблесьці, танк Т-62. Яшчэ ў лютым помнік за сродкі воінскай часткі дастаўлены ў гарадзкі пасёлак з Барысаўскага танка-рамонтнага завода. Прадставіць легендарную "трыццаць чацьвёрку" часоў Вялікай Айчыннай вайны ў Міністэрства абароны РБ не было магчымасьці. Тады было прынята рашэньне аб установцы хоць гэтага ў гонар абаронцаў Айчыны ў Зельве і аналагічнага - у Іўі Гарадзенскай вобласьці.**

Прапанова зэльвенскага райваенкома У.М.Сытых у газеце "Праца" распачала дыскусію на старонках "раёнкі". Але большасьць,пэўна, ня ўцямвае, што гэты танк ня можа быць воінскім сымболем абаронцаў Айчыны ў гады ваеннага ліхалецьця. Яны ж і выказваюцца за яго ўстаноўку побач са старымі могілкамі. Спрацоўвае пасіўнасьць людзей і інэрцыя мысьленьня, якая назіраецца ў большасьці жыхароў правінцыі. Але раённыя ўлады не зьвяртаюць увагі на лагічныя і цьвярозыя прапановы.Бо толькі адзінае са слушных меркаваньняў дэпутата райсавета, пракурора раёна В.Ігнацкага,было пакуль зьмешчанае ў мясцовай газеце. Маўляў, ён ні аб якай воінскай доблесьці не напамінае: "...На гэтым танку, вобразна кажучы, пот на палігонах і стрэльбішчах пралівалі сёньняшнія 40-і 30-гадовыя мужы. Але ж мы, хвала Богу, жывыя і здаровыя - навошта нам помнік пры жыцьці? Тым больш, што хтосьці на такім танку ўяжджаў у мяцежную Прагу ў 1968 годзе, а праз 20 гадоў саюзны прэм'ер пісаў прабачэньне перад чэшскім прэзідэнтам за тое танкавае ўваходжаньне, аб чым паведамлялі (тагачасныя - Л.Я.) "Известия" і "Правда"... Па шашы, ля якой мяркуецца ўстанавіць пастамент, штодзень праходзяць вялікагрузныя аўтамабілі з Заходняй Эўропы. Што будзе, калі адзін з вадзіцеляў, больш маладых, які проста ня бачыў у сваім жыцьці такіх помнікаў, ад зьдзіўленьня ці ад страху выпусьціць руль з рук?..

Цяжка прадказаць, чым скончыцца гэткая дыскусія.

Як стала вядома нашаму карэспандэнту, зэльвенскія ўлады і "вертыкальны" за ўстаноўку танка Т-62 ля шашы на вызначаным імі месцы і наогул не дапускаюць думкі, каб выкарыстаць запасны варыянт установкі сучаснага такна на тэрыторыі райваенкамата. Хутчэй за ўсё гэта чарговая спроба мясцовых уладаў пусьціць пыл людзям у вочы: "маўляў, раіліся з вамі...".

Пракурор раёна сп.В.Ігнацкі пры такой пагардлівай пазіцыі ўлад мяркуе ўнесьці пратэст адносна іх старога рашэньня. Але кажуць ,і адносна спадара Пятра Някрасава ў пракурора было сваё прынцыповае рашэньне, а выйшла ўсё наадварот...

Таму, пакуль ня позна, абудзіся, правінцыя, каб не даносіць да будучых пакаленьняў скажоную праўду аб гісторыі Вялікай Айчыннай 1941-1945 гадоў.

**Л.ЯСЕНЬ.**

## БЫЛЫЯ МІЛІЦЫЯНТЫ ПРАЦУЮЦЬ Ў КАМЕРЦЫЙНЫХ СТРУКТУРАХ

Як стала вядома, пасьля адыхода на пеньсію ў пачатку красавіка сёлетняга года былы міністр унутраных спраў рэспублікі Уладзімір Данько узначаліў службу бясьпекі "Белінвестбанка". Яшчэ адзін высокі чын упраўленьня ўнутраных спраў горада Менска Барыс Піліпенка, які адыйшоў на пеньсію разам са спадаром Данько, таксама працягвае працоўную дзейнасьць у банку. На дзіва, спадар Піліпенка ў "банкаўскіх" справах пераўзышоў свайго былога шэфа. Зараз ён займае пасаду намесьніка ўпраўляючага "Беларусбанка".

**СІМ**

# СУМЕЖЖА

## «КАРЫСНЫ БУДЗЕ ВОПЫТ ВІЛЬНІ...»

**Размова з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Беларусі ў Велікабрытаніі, былым паверанным у справах Беларусі ў Летуве сп.Уладзімірам Шчасным.**

**- Я невыпадкова выбраў для размовы апошні дзень вашага знаходжаньня ў Летуве. З якім пачуцьцём Вы пакідаеце Вільню?**

- Я быў першы паверны ў справах Беларусі ў Летуве. Прыехаў сюды 12 жніўня 1993 года. Для адкрыцьця пасольства, бо былі ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны. Адразу пачало зьвяртацца шмат людзей па справах грамадзянства. Іншай цяжкай справай было ўвядзеньне візавага рэжыму. Часам на працягу дня мы прымалі 1,5 тысячы чалавек. Вось чаму я пакідаю Вільню са спакойнай душой.

**- Ці былі нейкія цяжкасьці падчас вашага знаходжаньня ў Вільні?**

- У асноўным гэта былі цяжкасьці тэхнічнага характару, бо ва ўзаемадносінах з Міністэрствам замежных спраў Летувы або з гарадзкімі ўладамі ці проста з насельніцтвам ніякіх складанасьцяў не ўзьнікала.

**- Вы закранулі праблему візаў. Яна цікавіць кожнага чытача, кожнага грамадзяніна ў абедзьвюх краінах. Што тут чуваць новага?**

- Як вядома, Беларусь з самага пачатку прапанавала ня ўводзіць візавы рэжым. З нашага боку гэта была мера ў адказ. Мы добра разумеем прычыны таго, чаму Летува ўвяла візавы рэжым. Пагадзіўшыся, што ён будзе існаваць нейкі час, мы разам з летувіскімі калегамі пачалі рабіць захады, каб зьмягчыць яго. І шмат чаго пасьпелі зрабіць. Як вы ведаеце, асобы, старэйшыя за 60 год, маюць права бязьвізавага ўезду. Такога ў Летувы няма ні з Расеяй, ні з Украінай. Акрамя таго, мы, можа нават першыя ў сьвеце, увялі сістэму пасьведчаньняў, якія даюць права асобам, што захоўваюць грамадзянства суседняй краіны, на шматразавы ўезд. Усе заўважылі таксама, што на значныя сьвяты - Вялікдзень, Каляды, Радуніцу - межы адчыняюцца. Стараемся выдаваць бясплатныя службовыя візы для культурнага абмену.

**- Гэта, так бы мовіць, афіцыйная частка. Вы амаль заўсёды ўдзельнічаеце ў мерапрыемствах беларускіх суполак на Віленшчыне. Як вы маглі б ацаніць тутэйшую беларускую дыяспару?**

- У Летуве пражывае каля 50 тысяч чалавек, якія па пашпарту лічацца беларусамі. Трэба дадаць, што вялікая колькасьць людзей захоўвае карані ў Беларусі, нават калі яны і маюць іншую нацыянальнасьць. Калі мы падлічылі, колькі людзей магло б зьвярнуцца да нас за пасьведчаньнем аб тым, што яны захоўваюць права на грамадзянства Беларусі, дык атрымалі лічбу каля 100 тысяч чалавек.



Увогуле, гэта трэба зразумець, бо цяпер даволі складаны пераходны перыяд, калі людзі заняты, у асноўным, вырашэньнем сваіх эканамічных пытаньняў. Мяркую, што пройдзе 3-5 гадоў, і актыўнасьць этнічных беларусаў павялічыцца, будзе расьці цікавасьць да арганізацыі розных мерапрыемстваў, да адукацыі на беларускай мове. Але і цяпер даволі актыўна дзейнічаюць групы ў Вільні, Вісагінасе, Друскеніках, якія арганізоўваюць мерапрыемствы культурна-асьветніцкага плану.

**- Як Вы ўяўляеце сваю працу ў якасьці Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Беларусі ў Велікабрытаніі?**

- Я ўсьведамляю ўсе цяжкасьці, якія напаткаюць мяне ў Лондане. Там сітуацыя прыкладна такая, якая была ў Вільні, калі я сюды прыехаў. Трэба будзе пачынаць усё спачатку: прыстасаваць будынкі пад пасольства, камплектаваць штат. Хоць пасольства там існуе больш двух гадоў, але практычна там знаходзіцца адзін чалавек. Цяжкасьцяў будзе нямала, і тут вельмі карысным будзе вопыт Вільні. Я разумею ўсю адказнасьць знаходжаньня ў Англіі.

**- Як выглядаў Ваш шлях у дыпламатыю?**

- Я скончыў Інстытут замежных моваў у 1972 годзе, выкладаў у ім, скончыў курсы ААН і працаваў у сакратарыяце Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Ад 1983 года працаваў у Міністэрстве замежных спраў. Вопыт дыпламатычнай працы ў мяне, мяркую, ёсьць. Ён дапамагаў мне тут, у Вільні, і дапаможа ў Лондане.

**- А чым Вы цікавіцеся акрамя працы?**

- Вы маеце на ўвазе хобі ці, як яшчэ кажуць, канёк? Я ня вельмі люблю гэтае слова, бо галоўным хобі ў жыцьці кожнага чалавека павінна быць праца. Калі праца не задавальняе, чалавек шукае дадатковы занятак. Так склалася ў жыцьці, што мая праца і была маім хобі. Праўда, у свой час я працаваў у мастацкім перакладзе, але, калі Беларусь абвясьціла сваю незалежнасьць, і часу і сілаў на гэта ўжо не хапае.

**- А што і каго Вы перакладалі?**

- Я ў асноўным перакладаў амерыканскіх пісьменьнікаў, бо працаваў у Амерыцы і ведаю тамтэйшае жыцьцё. Акрамя таго, я зрабіў некалькі перакладаў з мовы ўрду - гэта адна з моваў Індапакістанскага субкантыненту.

**Размаўляў Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

**НА ЗДЫМКУ: Уладзімір ШЧАСНЫ (пасярэдзіне) з беларусамі Летувы падчас разьвітальнай вечарыны.**

**Здымак з архіва аўтара.**

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

### ГАЙНАЎКА

Беларускае гістарычнае таварыства арганізавала ў будынку Беларускага музея навуковую канферэнцыю "Беларусы ў Польшчы пасьля Другой сусьветнай вайны". Было прачытана каля дзесяці рэфератаў. Вось назвы некаторых з іх: "Беларуская вайсковая самаабарона ў 1944-1947 гадах" Славаміра Іванюка, ці рэферат Паўла Казанецкага "Беларуская апазіцыйная дзейнасьць ў 80-х гадах", "Беларускія нелегальныя (канспірацыйныя) выданьні ў 1982-1990 гадах" Веслава Харужага. Большасьць матэрыялаў будзе выдадзена ў Беларускіх Гістарычных Сшытках, якія ўбачаць сьвет у сёлетнім чэрвені.

### ГДАНЬСК

У бібліятэцы Польскай Акадэміі навук адбылося ўрачыстае адкрыцьцё выставы "Выдавецтвы нацыянальных меншасьцяў у Польшчы ў 1945-1995 г.г." Адным з арганізатараў выставы было Беларускае Культурнае Таварыства "Хатка".

### ВАРШАВА

Днямі адбыўся справаздачна выбарны сход Польскага Таварыства Беларусістаў. Госьцем форума быў старшыня Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў прафесар Адам Мальдзіс. Удзельнікі спатканьня, акрамя дыскусій аб дзейнасьці гэтай арганізацыі, вылучылі кандыдатуру Васіля Быкава на атрыманьне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры.

### БЕЛАСТОК

Беластоцкая мясцовая Рада выдзеліла 20 тысяч злотых на падтрымку арганізацый нацыянальных меншасьцяў.Таксама Рада зацьвердзіла ўзор новага герба Беластоку. Галоўная зьмена - гэта колер Пагоні: была чорнай, а будзе белай.

* * *

725 гадоў таму (1270 г.) зьявіліся першыя ўспаміны ў летапісах пра Пагоню як герб Старабеларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага).

"Czasopis"

## РАСЕЯ

### ПАСОЛ ЖАДАЕ МІРУ

"Мірны шлях рашэньня праблемы - гэта адзінае выйсьце з склаўшайся сітуацыі".

Менавіта так лічыць Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Ісламскай рэспублікі Аўганістан Абдулвахаб Асіфі . Ён паведаміў аб гэтым на прэс-канферэнцыі, што адбылася 18 красавіка ў Расейска-Амерыканскім інфармацыйным прэс-цэнтры. Прэс-канферэнцыя прысьвячалася вайне ў Таджыкістане і сітуацыі, склаўшайся на мяжы з Афганістанам. "Мы жадаем міра для сваёй радзімы - Аўганістана, - і не жадаем для іншых краін паўтарэньня нашага лёсу".

### ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА

Сюжэт, зьняты журналістамі расейскай тэлерадыёкампаніі да дня памяці ахвяр гітлераўскага генацыду, забаронены для паказу на тэлебачаньні.

На думку незалежных экспертаў Масквы, забарона зроблена таму, што тэлеперадача аб гітлераўскім генацыду - гэта сучаснае адлюстраваньне дзеяньняў расейскіх федэральных войск у Чачні.

(Э.-Х.)

## УКРАІНА

### РАСЕЯ БЕЗ УКРАІНЫ НЕ АДРОДЗІЦЦА ЯК ІМПЕРЫЯ

"Аб'яднацца ўсім патрыётам украінскай дзяржавы перад абліччам нарастаючай пагрозы ўсталяваньня фашысцкага рэжыму". Менавіта гэта галоўная ідэя Антыфашысцкага кангрэсу, які завяршыўся 16 красавіка ў Доме прафсаюзаў. Акцыя арганізавана ўкраінскай нацыянальнай асамблеяй. Лейтматывам кангрэсу стала думка, што галоўная пагроза суверэнітэту Украіны зыходзіць ад Расеі, якая пры дапамозе сваёй пятай калоны - украінскіх камуністых - спрабуе наноў акупаваць Украіну,без якой сама ня здолее ўжо ніколі адрадзіцца як імперыя.

### НАЦЫЯНАЛІСТЫ НЯ ВЫЙДУЦЬ НА ПЕРШАТРАВЕНЬСКІЯ СЬВЯТЫ

Праігнараваць сьвяткаваньне першага траўня вырашылі сябры Украінскай рэспубліканскай партыі, Народнага руху, Украінскай нацыянальнай партыі і дэмакратычнай партыі Украіны. Рашэньне аб гэтым прынята на паседжаньні каардынацыйнага Савета, які адбыўся 16 красавіка ў памяшканьні Адэскага Цэнтру ўкраінскай культуры.

(Э.-Х.)

## ХТО БУДЗЕ НОВЫМ ПРЭЗІДЭНТАМ ПОЛЬШЧЫ?

**Адна з найбольш уплывовых партыяў Польшчы - Вунія Свабоды - партыя былых прэм'ерміністраў Тадэвуша Мазавецкага, Ганны Сухоцкай ды Яна Кшыштафа Бялецкага - перастане быць партыяй першых двух асобаў. Ранейшы старшыня Вуніі Свабоды Тадэвуш Мазавецкі страціў сваё становішча. Ганна Сухоцкая прайграла з Яцкам Куронем у барацьбе за кандыдацтва ў будучых прэзідэнцкіх выбарах. І хаця абедзьве асобы ня маюць намеру пакідаць шэрагу партыі, ці публічна дэманстраваць сваё незадавальненьне, то іх бліжэйшыя супрацоўнікі сцьвярджаюць, што за Яцка Куроня, прапанаванага кандыдатам на пасаду прэзідэнта, яны галасаваць ня будуць. Адны больш давяраюць Адаму Стшэмбашу, Старшыні Найвышэйшага Суда, выстаўленаму правымі сіламі, другія - напрыклад, былыя лібералы з Ліберальна-Дэмакратычнага Кангрэсу - Леху Валенсе, бо яны лічаць яго адзіным палітыкам, здольным затрымаць пераможны наступ посткамуністаў.**

Яцэк Куронь ня можа разьлічваць у выбарчай кампаніі на адназначную падтрымку сваёй партыі. Аднак ён можа прывесьці да сур'ёзнага падзелу левых сілаў ды здабудзе падтрымку прынамсі часткі галасоў левых. Лідары сацыялістычнай Вуніі Працы ўсё яшчэ вагаюцца, падтрымліваць Куроня ці не, бо неблагой версіяй для іх быў бы абаронца грамадзянскіх правоў Тадэвуш Зялінскі. Кандыдат Саюзу левых дэмакратаў таксама хацеў бы, каб ягоная групоўка падтрымала Яцка Куроня, чым лідэра Польскіх сацыялдэмакратаў Аляксандра Квасьнеўскага.

Прапанаваная Вуніяй Свабоды кандыдатура Яцка Куроня прывяла да рознагалосьсяў і нязгоды паміж лідэрамі левых партый, але перадусім да падзелу сярод іх выбаршчыкаў. Ёсьць шмат падставаў сьцьвярджаць, што, дзякуючы Куроню, левыя сілы пойдуць на гэтыя выбары падзеленыя, як гэта дагэтуль адбывалася з лагерам правых сілаў. Галасы левых здабудуць Куронь, Квасьнеўскі, а можа і Зялінскі, тым самым пакідаючы больш месца кандыдатам на пасаду прэзідэнта ад правых.

Аднак ёсьць няшмат падставаў меркаваць, што правыя сілы выкарыстаюць падзел левых. Рэч у тым, што акрамя самога Леха Валенсы правае крыло польскай палітычнай сцэны будуць прадстаўляць, прынамсі, яшчэ тры кандыдаты: Адам Стшэмбаш, якога падтрымліваюць умеркаваныя групоўкі, эксцэнтрычны лідэр кансерватыўна-ліберальнай партыі Вунія Рэальнай Палітыкі Януш Корвін-Мікке, а таксама кандыдат, якога падтрымлівае прафсаюз "Салідарнасьць", хаця яшчэ і невядомае яго прозьвішча.

Ёсьць меркаваньне, што раздробненыя правыя сілы пачынаюць будаваць нанова свае каліцыі. Моцны кансерватыўны лагер можа паўстаць вакол асобы Адама Стшэмбаша, хрысьціянскія ды ультракамуністычныя сілы ахвотна створаць саюз вакол свайго ўласнага кандыдата.

У гэтай сітуацыі спробу падпарадкаваньня польскіх левых сілаў робіць вядомы канспірацыйны публіцыст з перыяду ваеннага стану Мацей Палескі, які пісаў калісьці на старонках парыскай газеты "Культура" ды "Пульс" - Чэслаў Бялецкі. У склад пакліканага ім "камітэту ста" увайшло шмат вядомых публіцыстаў, выбітны польскі пісьменьнік Густаў Герлінг-Грудзінскі, а таксама былы міністр замежных спраў Анджэй Аляхоўскі, вядомы эканаміст Ян Вінецкі ды яшчэ шмат іншых палітыкаў, бізнесмэнаў, журналістаў ды навукоўцаў.

Чэслаў Бялецкі запрапанаваў сваім калегам з "камітэту ста" падрыхтаваць ліберальна-кансерватыўную праграму, якая зьмяшчалася б у рамках уяўленьняў умеркаваных правых з акцэнтам на вольнарынкавую эканоміку, моцную дзяржаву з шырокімі правамі выканаўчай улады, без акцэнтаў на веру і касьцёл.

Бялецкі хоча, каб пад гэтымі штандарамі ягоны лагер выступаў у прэзідэнцкіх выбарах, хаця кандыдат яшчэ таксама невядомы.

Сёньня яшчэ цяжка сказаць, ці знойдзецца месца для падобнага лагера ў каталіцкай Польшчы, якая ніколі не пакутавала на недахоп правых сілаў на палітычнай сцэне. Толькі час, які набліжае Польшчу да чарговых - другіх - прэзідэнцкіх выбараў зможа даць адказы на шматлікія пытаньні.

**Паводле матэрыялаў Польскага Радыё падрыхтаваў Аляксандр НАВІЦКІ.**

## БЕЛАРУСЫ ЛАТВІІ ЗАНЕПАКОЕНЫ

### ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Сёньняшнія непаважныя адносіны да Закону аб дзяржаўнай мове ў розных установах Беларусі і асабліва ў сістэме адукацыі ўсё больш турбуюць беларусаў Латвіі. Адкрытыя нападкі на беларускую мову, беспадстаўныя сьцьвярджэньні, быццам беларуская мова бедная, і на ёй нельга выказаць нешта ўзвышанае, што ў сьвеце ёсьць толькі дзьве вялікія мовы - расейская і ангельская, - усё гэта абражае, прыніжае нашу родную беларускую мову і мільёны беларусаў, што жывуць на Радзіме і за яе межамі, у тым ліку ў Латвіі. Асабліва нас устрывожыла зьвестка аб правядзеньні ў Беларусі рэферэндума, мэта якога - наданьне расейскай мове статуса дзяржаўнай, і перагляд старажытных дзяржаўных сымбаляў Беларусі.

Беларусы на тэрыторыі сёньняшняй Латвіі жывуць з даўніх часоў, тут склаліся іх самабытная культура і традыцыі, захавалася беларуская мова. У 20-е гады ў Латвіі існавала больш пацідзесяці беларускіх школ, беларускія гімназіі, тэатр, друк, якія ў пазьнейшыя часы са зьменай палітычнага становішча былі ліквідаваны. У апошнія гады, асьветна-культурнае жыцьцё беларусаў Латвіі пачало адраджацца. На гэта станоўча паўплывала і адраджэньне нацыянальнай незалежнасьці самой Беларусі, прыняцьцё закона аб дзяржаўнасьці Беларускай мовы. У 1989 годзе была адчынена Беларуская мастацкая студыя "Вясёлка", пачала працаваць беларуская праграма на латвійскім радыё, у 1993 годзе адкрыта Рыжская беларуская нядзельная школа, выйшаў першы беларускі часопіс "Сьвітанак" і газета "Прамень", а ў гэтым навучальным годзе быў адкрыты і клас беларускай школы ў Рызе. Аднак, маючы адбыцца рэферэндум ставіць пад пагрозу ўсё гэта і ўвогуле адраджэньне і разьвіцьцё беларускай культуры ў Латвіі, бо сёньняшнія дзеяньні ў Беларусі адбіваюцца і на адносінах і да беларускай дыяспары. Каля ста тысяч беларусаў Латвіі адчуваюць на сабе адсутнасьць дзяржаўных пагадненьняў паміж Рэспублікай Беларусь і Латвіяй аб пеньсіянерах, аб гандлі, аб культурным супрацоўніцтве і аб адукацыі беларусаў Латвіі на роднай мове.

Мы разумеем тых беларусаў, у якіх выхавана найбольная любоў да расейскай мовы і цяжка ім прызвычаіцца да беларускай. Але хацелася б, каб і яны разумелі, што няма ў сьвеце такога народа, які адмовіўся б ад сваёй мовы. Кожны народ, будуючы сваю дзяржаву, карыстаецца старажытнай мовай гэтай зямлі, а ня ўводзіць чужую мову. Няма моваў вялікіх і малых, як моваў бедных ці багатых. Для кожнага народа, нацыі свая мова ёсьць і найвялікшая, і найбагацейшая, і найпрыгажэйшая, бо гэта родная мова, як і маці. Няхай Беларуская мова ідзе з садкоў, з школаў і вышэйшых навучальных устаноў. Пройдуць гады, і Беларус гэтага пакаленьня ўжо загаворыць на роднай мове і ня будзе праблемаў, і стане тады Беларусь сапраўднай беларускай дзяржавай. Але будзе ж вялікі сорам усім нам перад іншымі народамі сьвету, калі па прычыне рэферэндуму народ наш страціць родную мову і адрачэцца ад ужо прынятых у канстытуцыі гістарычных сымбаляў Беларусі. Таму мы спадзяёмся на вас, нашы суайчыньнікі, мы верым, што вы захаваеце незалежнасьць Беларусі і нашу родную беларускую мову, бо няма мовы - няма і народа.

Ад імя агульнага сходу:

**ад Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак"**
**- старшыня Мікола ЯРЧАК,**
**старшыня рады Сяржук КУЗЬНЯЦОЎ;**
**ад Таварыства беларускай мовы "Прамень"**
**- старшыня Алесь КАРПОВІЧ,**
**нам. старшыні Ала МАКАРЭВІЧ;**
**ад Рыжскай беларускай школы і Аб'яднаньня мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар"**
**- старшыня Вячка ЦЕЛЕШ;**
**ад Таварыства беларускай культуры "Уздым"**
**- старшыня Мікола ПАЎЛОВІЧ,**
**нам. старшыні Станіслаў ВАЛОДЗЬКА;**
**кіраўнік ансамбля "Надзея" Зоя КАЛЬВІШ;**
**рэдактар газеты "Прамень" Лявон ШАКАВЕЦ.**

## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

# КУР'ЁЗНЫЯ ЗАБАРОНЫ

## (З ГІСТОРЫІ ДЗЕЯНЬНЯЎ ЦАРСКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ НА БЕЛАРУСІ)

**Не сакрэт, што і сёньня розныя ўказы, пастановы і распараджэньні настолькі выглядаюць дзіўнымі, што вельмі часта выклікаюць усьмешку. Хаця падобныя сітуацыі ўзьнікаюць ня толькі цяпер, яны сустракаліся і ў нашым мінулым. Таму варта зьвярнуцца да заканадаўчай дзейнасьці, якая ўжо належыць гісторыі.**

Расейскае заканадаўства 19 ст. стракаціла суцэльнымі неверагоднымі, невытлумачальнымі забаронамі, якія, часам, атрымоўвалі афарбоўку анекдатычных сітуацый. Забароны рэгламентавалі амаль што ўсе бакі жыцьця (паводзіны, нормы маралі,зьнешні выгляд чалавека і г.д.) І закранаді ўсе слаі грамадзтва: чыноўнікаў, афіцэраў, духавенства, мяшчанства. На абсурднасьць усталяванай заканадаўчай сітуацыі, як правіла, першымі зьвярталі ўвагу пісьменьнікі - Турбін, Фляроўскі, Ляскоў. Апошні, выступаючы ў 60-я гады 19 ст. у "Биржевых ведомостях", публікуе нататкі "Сим воспрещается...", дзе прыводзіць некалькі дзесяткаў падобных забаронаў. Забаранялася студэнтам насіць фуражкі, семінарыстам - адзеньне кароткага крою, афіцэрам - фуражкі і калошы, насіць вусы на флоце, пяхоце, цяжкай артылерыі, дваранам і чыноўнікам - круглыя бакенбарды, мець багаслоўскія спрэчкі без дазволу паліцыі, піць алкаголь і піва ў лазьнях і г.д.

На Гарадзеншчыне забароны расейскіх уладаў распаўсюдзіліся ўжо ў часы Аляксандра І. Яскравым іх прыкладам была забарона для шляхты апранацца ў "вопратку старажытнай моды". Гарадзенскі грамадзянскі губернатар М.Анджэйковіч у 1823 г. атрымаў сакрэтны ліст. У лісьце абавязвалася забараніць усім у губерні апранацца "у непрыстойнае адзеньне". Повадам для такога крока ўладаў было зьяўленьне графа Машынскага і маладых шляхціцаў у час агляду войска ў Замосьці ў распаўсюджаным з часоў Рэчы Паспалітай шляхецкім адзеньні. З ліста вынікала, што ў "старажытнае польскае адзеньне" дазволена апранацца толькі тым, хто такім карыстаецца стала з даўніх часоў. Зьмена адзеньня са звычайнага на "старажытнае польскае" забаранялася.

Улады непакоіў ня толькі зьнешні выгляд людзей, які ўсё ж такі мімаволі нагадваў аб часах Рэчы Паспалітай, але і інтэлектуальнае развіцьцё маладога пакаленьня. У гэтым жа 1823 годзе расейская адміністрацыя забараніла вучыцца выхадцам з пяці заходніх губерній імперыі, у тым ліку і з Гарадзенскай, у шэрагу універсітэтаў Эўропы, а менавіта ў Кракаўскім і 20 ВНУ Швейцарыі і Нямеччыны. Улады патрабавалі ня толькі не пасылаць, але і адклікаць тых, хто там вучыцца.Усё гэта рабілася ў мэтах "аховы юнацтва ад шкодных замежных навучальных устаноў..."

Галоўнай прычынай падобных захадаў уладаў быў грамадзка-палітычны рух на Летуве і Беларусі на пачатку 19 ст. Менавіта таму на пачатку 20-х гадоў уводзіцца цэнзура, закрываюцца масонскія ложы, а ад іх удзельнікаў патрабуецца падпіска аб неўдзеле у патаемных таварыствах. Закрываюцца таксама студэнцкія таварыствы, у тым ліку "Таварыства філаматаў". За яго сябрамі вядзецца пільны нагляд.

Відочная палітычная афарбоўка у матывах забаронаў адчувалася таксама ў часы Мікалая І.

Забароны моцна разыходзіліся з жыцьцём і супярэчылі маральным уяўленьням тагачаснага грамадзтва. Сярод іх сваім дзівацтвам вылучаюцца наступныя. Шляхціцам і чыноўнікам забараняецца насіць вусы і барады. Сам імператар лічыў гэта абсалютна "непрыстойным". У 1851 годзе Мікалаю І падчас праезда па Берасьцейскай шашы трапіліся дэпутат Пружанскага ўезда Яблонскі і гаспадар Пётравічскай паштовай станцыі Відацкі. Першы меў вусы, а другі - бараду. Супярэчлівы літары закона стан быў выпраўлены "галеньнем з артыштам дэпутата Яблонскага ў Брэст-Літоўскі замак на 8 дзён". Нашэньне вусоў і бароды дазвалялася толькі ў выключных выпадках, як гэта здарылася ў 1852 годзе ў Пружанскім уезьдзе, калі чыноўнік Іван Рынкевіч прасіў земскі суд дазволіць насіць вусы і бараду па прычыне "што меў ад прыроды падвоеную верхнюю губу так, што шчыліна гэта часта ад ветру, непагадзі і марозу шкодзіць зубам і рту", чаму падчас галеньня адчуваецца вялікі боль.

І ўсё ж такі, нягледзячы на строгасьць забаронаў, мода на вусы і бароды ў Гарадзенскай губерні ў сярэдзіне 19 ст. стала масавай. Улады тлумачылі забарону тым, што "шмат чыноўнікаў носяць вусы і бароды накшталт жыдоў ці перайманьне французскай моды". Як і ў шэрагу іншых выпадкаў, праяўляліся характэрныя рысы ўнутранай палітыкі царызма: антысемітызм, а таксама боязь дапушчэньня якіх-небудзь эўрапейскіх уплываў, а менавіта з вольнадумнай Францыі.

Да забаронаў кур'ёзнага характару варта аднесьці забарону паліць у горадзе. У 1851 годзе гарадзенскі паліцмайстар атрымаў распараджэньне "аб'явіць усім жыхарам, а дамаўладальнікам з падпіскаю, каб адгэтуль ніхто не адважыўся паліць цыгарэты на вуліцах. Калі хто парушыць... арыштаваць з пасадкаю на гаўпвахту". Аналагічную сутнасьць меў загад, які атрымала ў 1850 годзе беларасьцейская паліцыя. У горадзе забаранялася курыць люлькі, папіросы, цыгарэты. Аўтар загаду - берасьцейскі камендант генерал-лейтэнант Барталамей занепакоена сьцьвярджаў: "Нягледзячы на гэта, аднак жа паленьне на вуліцах фарштатаў увайшло ў такі звычай, што я сустракаю на фарштатах афіцэраў, чыноўнікаў, гарадзкіх жыхароў і памешчыкаў, якія едуць ці шпацыруюць па вуліцах заўсёды амаль што паляць, і ў тым ліку самога ўезднага страпчага, абавязкам якога быць ахоўнікам парадку і выкананьне ўсяго прадпісанага законам і ўрадам". Каментуючы гэтую забарону, зьвернемся да трапнай заўвагі пісьменьніка Ляскова: "Мы ніколі не памятаем столькі аматараў паліць на вуліцах, як тады, калі гэта было забаронена".

Пільнуючы маральнае аблічча жыхароў губерні, у першую чаргу гарадзенскай моладзі, у 1874 годзе Міністэрствам народнай асьветы былі зацьверджаны правілы для вучняў. Гімназістам забаранялася наведваць маскарады, клубы, трактіры, кавярні, більярды і іншыя падобныя ўстановы. Згодна параграфу 36 правіл "наведваньне іх будзе прызнана небясьпечным ці непрыстойным для вучняў з боку бліжэйшага іх начальства".

Ня меншую ўвагу ўладаў прыцягвалі праблемы вядомых людзкіх слабасьцей: ужываньне алкаголю, кулачныя баі, і асабліва азартныя гульні. Апошняе забаранялася на працягу 19 ст. паўсюдна на ўсіх гарадах губерні. За гульнёй у карты быў ня проста кантроль мясцовых уладаў. Яны вялі нагляд за продажжу картаў, за людзьмі, што гулялі ў іх, гульцы арыштоўваліся, абшукваліся і нават высылаліся. Галоўнымі матывамі забароны тут, бясспрэчна, былі азартны характар карцёжных гульняў, частыя ашуканствы, дый, магчыма, тое, што ў іх прымалі ўдзел людзі, якія павінны былі быць аўтарытэтам для гараджан.

Яшчэ ў 1819 годзе было зацьверджана Палажэньне зьбіраньня картачнага збору, згодна артыкулу 13 якога мясцовая паліцыя павінна строга пільнаваць "каб нідзе гандлю забароненымі картамі не рабілася", забараняўся продаж "кантрабандных картаў", іх вытворчасць на "дазволеных фабрыках". Словы і справы ўладаў не разыходзіліся. У 1852 г. вайсковы губернатар Горадні і гарадзенскі грамадзянскі губернатар фон дэр Ховен сакрэтна загадаў аб канфіскацыі 20 калодаў замежных картаў з лаўкі кобрынскага габрэя Абрама Лейб-Збара.

Месцам, дзе адбываліся розныя карцёжныя правапарушэньні, былі карчмы, шынкі ці так званыя піцейныя ўстановы. Гэтымі пажыўнымі месцамі цікавілася ня толькі мясцовая паліцыя, але нават і жандармерыя. З сакрэтнай перапіскі начальніка Гарадзенскага губернскага жандармскага ўпраўленьня да гарадзенскага губернатара ад 1872 г. вынікае, што на падставе ананімак складзена карта ўсіх дамоў Горадні і іх гаспадароў, дзе адбываецца карцёжныя гульні. У ананімках даносіцца, людзі якіх станаў былі заўважаны падчас гульні. Пасьля праверкі аказалася, што гулялі ў карты толькі ў адным з пяці вызначаных месцаў.

Людзі, якія пісалі ананімныя даносы, як правіла, былі сьведкамі карцёжных гульняў. Праз даносы праходзілі ўсе дробязі ўбачанага. Напрыклад, ананімка з 1872 г.: "Галоўны бухгалтар казначэйства Бучацкі, Малевіч, Татарыцкі і якісьці адстаўны пісар пастаянна сядзяць у шынку рыжага Іцкі супраць Казначэйскай палаты і гуляюць у карты. Многіх яны ўжо пагубілі, асабліва Бучацкага, таму чыноўнік Трускоўскі пазбавіў сябе жыцьця, і яшчэ Бучацкі носіць 10-рублёвы фальшывы білет... Знойдзеце кожны дзень у тым шынку менавіта Бучацкага з 10 гадзін вечара да 3 гадзін ночы..."

На Гарадзеншчыне не было недахопаў у славутых карцёжных аферыстах, адным з якіх быў шляхціч Аўрэліан Крынскі, які зруйнаваў шмат сем'яў з дапамогай карцёжных ашуканстваў. Ураджэнец Гарадзенскай губерні, у 1845 годзе высланы на радзіму з Вільні пад нагляд паліцыі, жыў у Горадні, Берасьці, Друскеніках, Кобрыне. Летам 1850 года Крынскі наведаў Горадню. Паліцыя пільнавала кожны крок вядомага аферыста. На кватэры Крынскага быў зроблены вобыск, аднак не было знойдзена ніводнай падробленай карты. У рэшце рэшт майстра сваёй справы Крынскага высалі ў 1851 годзе ў Аланецкую губерню.

На пачатку 20 ст. татальны кантроль за кожным крокам гульцоў у карты быў паслаблены. Згодна са статутам "Гарадзенскага благароднага сходу" былі дазволены "усе камерцыйныя гульні ў карты, у шахматы, шашкі, даміно і іншыя, за выключэньнем азартных". Але найбольш папулярным было тое, што забаранялася. У 1911 годзе ў сходзе шэраг чыноўнікаў і вайскоўцаў гулялі ў макао. Падчас гульні падпалкоўнік Нікцюкоў прайграў партнёрам 2 тыс. рублёў па прычыне іх "недобросумленный гульні". Пасьля гэтага здарэньня ўсе чыноўнікі былі звольнены з працы, а губернскі клуб распусьцілі.

Аналізуючы шматлікія прыклады, можна вылучыць два асноўных тыпа забарон: 1) агульнарасейскія (забарона нашэньня вусоў і барады, паленьня тытуню на вуліцах гарадоў, гульні ў карты і г.д.), 2) мясцовыя (уведзеныя сьпецыяльна для былых зямель Рэчы Паспалітай: забарона апранацца ў адзеньне старога шляхецкага крою, забарона пасылаць моладзь на вучобу ў Эўрапейскія універсітэты і г.д.). Некаторыя забароны, якія мелі характар заканадаўчай нормы, насілі анекдатычную афарбоўку. Прычым кур'ёзнасьць сітуацыі заключалася менавіта ў тым, што самі законы супярэчылі традыцыйным нормам грамадзянскага жыцьця. А спробы ўвядзеньня забарон у жыцьцё сустракаліся з фактычным іх ігнараваньнем.

**Юры ГАРДЗЕЕЎ.**

# ВЯЛІКДЗЕНЬ, ВЯЛЬКАНАЧ, ПАСХА

Надыходзіць Вялікдзень - значнае сьвята хрысьціян усіх канфесій, якое ў нашых мясьцінах адзначалася больш багата і ўрачыста, чым, нават, Каляды. Хацелася б падзяліцца з чытачамі "Пагоні" сваімі ўспамінамі пра гэта. Магчыма, прачытаўшы, хтосьці ўспрыме ўспаміны пра сьвяткаваньне гэтага сьвята ў сваёй мясцовасьці. Час, які тут апісваецца, - гэта трыццатыя гады пры міжваеннай Польшчы. Ужо тады многія звычаі і абрады адышлі ў нябыт. Назвы абрадаў буду старацца захоўваць такімі, якімі былі яны ў той час у нашай і суседніх вёсках.

Сем тыдняў Вялікага Посту. Вечарамі нельга было нічога рабіць, ні прасьці, ні шыць. Для вясковых жанчын гэта быў своеасаблівы адпачынак. Гэтымі вечарамі суседкі зьбіраліся на сутонак папляткарыць трошкі ды адпачыць. Ужо за тыдзень да Вялікадня ў нядзелю была Вербніца, калі ў хрысьціянскіх сьвятынях асьвячалі вербачкі на памяць аб урачыстым уезьдзе Ісуса Хрыста ў Ерусалім, калі яго сустракала насельніцтва горада пальмавымі галінкамі.

Прыйшоўшы з царквы з гэтымі асьвечанымі вербачкамі ўмоўна "білі" па плячах дзяцей, прыгаворваючы:

*Вярба б'е, ня я б'ю.*
*За тыдзень Вялікадзень,*
*Вялікі расьці, на лета мак трасьці,*
*А як натрасеш, то і мне прынясеш.*

Да таго ж гаспадыні гэты дзень пасьцілі "шчырым постам", г.зн. цэлы дзень нічога ня елі. Мужчыны таксама рыхтаваліся да сьвята.

Назаўтра, пасьля ўсяночнага набажэнства, прыйшоўшы з царквы, ўсёй сям'ёй сядалі за ўрачыстае сьнеданьне - разгаўляліся, пачынаючы яго з асьвячоных яек і другіх страў. Пасьля сьнеданьня разыходзіліся хто куды. Гаспадыні - адпачываць, дзеці беглі на вуліцу гуляць, а мужчыны, набраўшы ў кішэні фарбаваных яек, ішлі на вуліцу "змагацца". Самыя азартныя ўдзельнікі гэтых своеасаблівых спаборніцтваў несьлі дадому пасьля "баёў" цэлыя кішэні выбітых яек. Натуральна, перш чым пачаць "бойку", паміж партнёраў было многа спрэчак: каму трымаць, а каму біць. Бо ў таго, хто біў, пры ўсіх роўных умовах было больш шанцаў атрымаць перамогу. Таму, хто сумняваўся, прапаноўвалі падмену яйкамі. Былі прыёмы "псіхалагічнага" узьдзеяньня на праціўніка і многае іншае. Такім чынам "дэбаты" пры ўсім гэтым былі гарачыя.

У другой палове першага дня Вялікадня пад вечар пачыналі свой абход валачобнікі, якіх у нас называлі "галакальнікамі", ад слова "галокаць". Магчыма, правільна было б назваць іх валакальнікамі, тады гэта слова набыло б сэнс блізкі да валачобнікаў. А магчыма некалі яно так і было, і з часам зьмянілася пад уплывам прыстаўнога "г", якое ў нас вельмі пашырана, напрыклад: гаўца, гавёс, гуліца і іншае. Але з гэтым няхай разьбіраюцца сьпецыялісты.

Першымі пачыналі галокаць самыя юныя - 12-14 гадоў, а потым увечары пачынала свой абход моладзь, якая, часта, не абмяжоўвалася адной сваёй вёскай, а абходзілі яшчэ 1-2 суседніх, так што гэта працягвалася ажно ўсю ноч. Ноччу гукі песень даносіліся здалёк са ўсіх бакоў. Калі Вялікдзень бываў разам у каталікоў і праваслаўных (а гэта бывае, здаецца, раз у пяць гадоў), то абходзілі ўсе хаты, а калі розныя даты, то тады толькі хаты адпаведна канфесіі, або "веры", як гаварылі тады. У праваслаўных, падыйшоўшы да вакна і паслухаўшы, віталі гаспадароў словамі "Хрыстос Уваскрос", а ў каталікоў - "Няхай будзе пахвалены". Пасьля гэтага пыталіся: "Ці можна дом разьвесяліць?" Калі гаспадар даваў згоду, спачатку сьпявалі песьні рэлігійнага зьместу, а пасьля, па жаданьню гаспадара, калі ў хаце быў хлопчык ці дзяўчынка, сьпявалі песьні: хлопчыку - "Зялёны авёс велькі падрос", а дзяўчынцы - "Канапельку".

Натуральна гаспадар даваў, звычайна, некалькі яек.

На другі дзень дзеці хадзілі па "валачонна" да сваякоў, хросных і да другіх блізкіх людзей. Звычайна несьлі з сабою кавалкі пірага, фарбаваныя яйкі, давалі ўсё гэтае гаспадарам , а тыя ў сваю чаргу давалі дзецям таксама падобныя гасьцінцы - яйкі, пірог ці яшчэ што- небудзь смачнае. Гэта называлася абходзіць па валачонна, або даваць валачонна. Вёскі ў нашых мясьцінах зьмешаныя: мшат тут праваслаўных і каталікоў, і, натуральна, сьвята больш адчувалася тады, калі Вялікдзень быў разам, калі сьвяткавала ўся вёска.

На заканчэньне, з нагоды Вялікадня, хочацца павіншаваць беларусаў усіх хрысьціянскіх канфесій гэтым вялікім сьвятам вершам заходнебеларускага паэта Алеся Мілюця, твор быў мною перапісаны недзе ў другой палове трыццатых гадоў з беларускага адрыўнога календара , які выдаваўся ў Вільні. Верш гэты - ня толькі гімн Сьвятому Хрыстову Уваскрэшаньню, але і заклік да нацыянальнага адраджэньня і прабуджэньня нашага народа:

ХРЫСТОС УСКРОС

*Прайшла зіма... і вечар вясны*
*Зыйшоў, як дар з нябёс.*
*У паветры радасна званы*
*Гудуць - Хрыстос Ускрос!*
*К жыцьцю ўваскрослая зямля*
*П'е ласкі сонца кос...*
*Жывой прыроды чую я*
*Гімн-сьпеў - Хрыстос Ускрос!*
*Красой любуецца пагляд*
*Радзімых ніў палос...*
*Плыве з-пад стрэх сялянскіх хат*
*Прывет - Хрыстос Ускрос!*
*Браты, пакіньма марны страх,*
*Збудуйма лепшы лёс.*
*Сьмялей, сьмялей на новы шлях*
*Бо й нам Хрыстос Ускрос.*

**Г.ТАРАСЕВІЧ,**
**г.Горадня**





# ЦІ МОЖНА НА «ЛАКАМАТЫВЕ» У ЭЎРОПУ?

Чарговая гульня "Нёмана", якая праходзіла ў "цудоўна-футбольнае" надвор'е і ў прысутнасьці чатырох тысяч гледачоў, павінна была даць адказ на лёсавырашальнае пытаньне: ці на карысьць пайшла нечаканая зьмена трэнерскага штаба?

Гульня з "Дынама-93", нягледзячы на нулявы вынік, паказала, што ў гарадзенскай каманды захаваўся някепскі гульнявы патэнцыял. Гэта быў бадай лепшы матч "Нёмана" ў сёлетнім сезоне.

Запомніліся і імклівыя флангавыя праходы Гурэнкі і Белязякі, тэхніка абводкі Юйко, аднак, крыху не хапіла ўдачы і суддзейскай дабразычлівасьці. Відавочна, што ў той вечар магілёўскі рэферы Сярожкін быў нетрадыцыйна суровы да гаспадароў.

Што ж дачытыць "Дынама-93", то ад патэнцыяльнага ўдзельніка Эўракубкаў-95 чакалася больш зьмястоўная гульня. Напрыклад, віцебскі "КІМ" узору 94-га года выглядаў на гарадзенскім стадыёне больш моцнай камандай.

Калі дадаць яшчэ некалькі штуршкоў да трэцяга тура, то нельга не заўважыць "нічыйную" афарбоўку 5 з 8 гульняў і ўпартасьць амаль усіх матчаў. Нават з уздзелам дыяметральна процілеглых удзельнікаў футбольнага пелетону.

Чэмпіён "Дынама" (Мн) толькі з мінімальным лікам 3:2 перамог "Ведрыч". А гульня віцебскіх "дэрбі" стала найбольш нечаканасьцю тура. Ці ня здарыцца ў выніку так, што менавіта "Лакаматыў" запаліць чырвонае сьвятло на шляху сваіх землякоў ня толькі да золата чэмпіянату, але і ў Эўракубкі?

Адзначым і няўдалы веснавы старт гарадзенскіх прадстаўнікоў у другой лізе.

"Хімвалакно" ўдала ўступіў (1:0) "Камунільніку". Другая палеская каманда - монстр міжсезоньня - мозырскі МПКЦ ледзьве не праглынуў у Мастах "лятаючых" карданаў - 4:0.

**І.ПРЫВАРОЦКІ.**

## ДОМ ДЛЯ ВЕТЭРАНАЎ ПАД ПЫТАНЬНЕМ

Шыкоўны прэзент абяцаюць зрабіць ветэранам пад сьвята Перамогі ў Горадні мясцовыя ўлады.

Зараз на ўзьбярэжжы Нёмана, непадалёк лесапарку Румлёва актыўна ідуць будаўнічыя працы. Аднак ужо сёньня ветэраны непакояцца, што будынак ня будзе своечасова ўведзены ў строй.

Заклапочанасьць ветэранаў падцьвердзіў і першы намесьнік старшыні абласнога Савету ветэранаў вайны спадар У.І.Ракаў, які падчас нядаўняй прэс-канферэнцыі ў аблвыканкаме паскардзіўся на слабое фінансаваньне будоўлі.

**Г.А.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**"А МЫ - РАЗБОЙНІКІ, РАЗБОЙНІКІ..."**

У наш час злачыннасьць ня толькі разрастаецца. Адначасова паявілічваецца і армія выканаўцаў крымінальнай справы. І менавіта іх шэрагі растуць за кошт "падрастаючага пакаленьня".

Так, нядаўна ў Горадні была выкрыта тройка налётчыкаў, якія ў класічным стылі "гоп-стопа" адабралі ў госьця-берасьцейца замежны "відзік" з касетамі, а таксама пяць долараў і 20 тысяч рублёў.

Узначальваў "брыгаду" 16-гадовы навучэнец ПТВ-119. А кампанію яму склалі вучань-равесьнік СШ N 12 і васьмікласьнік пазьменнай школы.

* * *

Яшчэ адна тройка "маладазялёных" і да таго ж нідзе непрацуючых "спалілася" у краме МП "Бертэль" па вул.Горкага. На гэты раз скаванае вока зборнай - гарадзенска-берасьцейскай "гоп-кампаніі" упала на відэакамеру фірмы "Панасонік".

У імгненьне вока адзін са злачынцаў, як красавіцкі кролік, пераскочыў прылавак і ўхапіў амаль 10-мільённую здабычу і - наўцёкі.

Аднак радасьць была нядоўгай, бо ў той жа дзень за ўсімі трыма зачыніліся дзьверы казённага дома.

**"НОВЫЯ МАТЫВЫ Ў СТАРЫХ ЗЬВЯХ"**

Медна-алюмініевая і аўтамабільна-магнітольная тэма па-ранейшаму не зыходзіць з крымінальных зводак. З той толькі розьніцай, што ў гэтых ужо амаль традыцыйных галінах крымінальнага бізнесу зьяўляюцца новыя акалічнасьці.

Відавочна, што поле пошукаў інвалютнага тавару пашыраецца. За мінулы тыдзень сярод 20 "металічных" злачынстваў найбольшую ўвагу выклікалі разукамплектаваньні двух электрастанцый у Шчучынскім і Гарадзенскім раёнах, а таксама крадзёж царкоўна-меднага начыньня з праваслаўнага Сьвятатроіцкага храма ў Зэльве.

* * *

І зусім прыкрая, амаль сатанінская зьява зарэгістравана ў Лідзкім раёне, дзе ў ноч на Вербную Нядзелю з розных могілак скралі чатыры алюмініевыя агароджы.

* * *

З 19 зафіксаваных аўтазлачынстваў 7 зьвязаны з адгонамі легкавікоў. Толькі за адну ноч уладальнікі іншамарак не далічыліся двух "Фольксаў" і аднаго "Опеля". Па меркаваньню прафесіяналаў-крыміналістаў, шыкоўныя аўто звычайна прадаюцца за мяжу, а патрыманыя ідуць на запчасткі. Зафіксаваны і іншыя выпадкі: крадзёж "крутых" легкавікоў з мэтай іх далейшага збыту... самім уладальнікам. Хочаш вярнуць шыкоўную "тачку" - гані дзьве "штукі" і ніякіх праблемаў.

**НЕВЯЛІКОДНЫЯ ЖАРТЫ**

Аб тым, што ў Горадні былі "замінаваны" навучальныя ўстановы раней у друку паведамлялася. Яно і ня дзіўна: не зрабіў урокі - тэлефануй па "02". Рызыка "заляцець" невялікая.

Гэта што тычыцца школ, а вось у будынак тэлефоннай станцыі і аддзяленьня сувязі, што на вуліцы Ажэшкі, "бомба" была закладзена ўпершыню. Калі б гэта адбылася не 15-га, а першага красавіка, то, магчыма, усё абыйшлося без традыцыйнага для такіх выпадкаў сцэнару: ачапленьня, эвакуацыі персаналу, прыезду праз тры гадзіны сапёраў, якія ж, вядома, нічога не знайшлі.

**"ЦЯЖКА ЖЫЦЬ БЕЗ ПІСТАЛЕТА, А З ІМ?"**

Выпадак, які адбыўся ў Лідзе, ставіць пад сумненьне гэтую вядомую прымаўку. У гэтым горадзе на прыпынку па вуліцы Труханава быў знойдзены труп 37-гадовага ураджэнца Ліды. Галава бамжа была прастрэлена, а побач знойдзены пісталет "ТТ". Відавочна, што гэта было самагубства.

Аб тым, што мода на зброю і боепрыпасы пашыраецца ня толькі сярод крымінальных элементаў, але і абывацельскіх колаў, сьведчаць паведамленьні са Шчучына і Горадні.

Напрыклад, шчучынскімі міліцыянтамі падчас праверкі легкавіка адной службовай асобы з абласнога цэнтра, былі канфіскаваны 179 патронаў калібра 5,45 мм і 16 - да спартыўнага пісталета. Па словах уладальніка сьвінцовага тавару, гэты груз ён знайшоў... 20 год таму (!), а зараз меў намер адвесьці яго на лецішча і там захаваць.

У Горадні на кватэры пенсіянера-вайскоўца знойдзена каля 200 патронаў да "Калашнікава". Прычына, па версіі гаспадара, зноў жа паважная.

**УНІЗ ПА РАЦЭ...**

Катастрофай закончылася падобная раньне-вясновая прагулка на байдарках па Нёману трох маладых гарадзенцаў, у тым ліку і 6-гадовага хлапчука.

Каля вёскі Лукавіца байдарка перакулілася. Сьлядоў пацярпелых дагэтуль ня знойдзена.

**Г.ДАНІЛОВІЧ.**

## УДАКЛАДНЕНЬНЕ

У N 14 (13) "Пагоні" ў артыкуле "Радзіма павінна ведаць сваіх герояў" па віне рэдакцыі дапушчаны недакладнасьці. Тацьцяна Аляксееўна Бадзюкова не працуе на кафедры гісторыі Беларусі ГрДзУ, і не абараняла кандыдацкую дысертацыю на тэму "Антысавецкі рух моладзі Польшчы ў гады падрыхтоўкі і разьвязаньня фашыстоўскай агрэсіі ў Польчшы (1933-1939 г.г.) На самой справе Тацьцяна Аляксееўна працуе на кафедры ўсеагульнай гісторыі ГрДзУ і абараняла кандыдацкую ступень на тэму усеагульнай гісторыі. Перапрашаем.



ШПАКОЎНЯ Ў КАПЯЛЮШЫ.
**Фатаграфаваў: А.УЛАДАСЕВІЧ.**

## АБ НАШЫХ ДЗЕЦЯХ КЛАПОЦЯЦЦА... НЕМЦЫ

Восеньню мінулага года Гарадзеншчыну наведаў кіраўнік таварыства дапамогі беларускім дзецям у бядзе спадар Вільфрыд Кардынал з Нямеччыны. Ён тады вывучаў магчымасьць арганізаваць адпачынак 30 дзецям з вобласьці, якія, пераважна, схільны да анкалагічных захворваньняў.

І вось нядаўна спадар Кардынал разам са сваімі паплечнікамі, якія правялі вялікую работу сярод багатых людзей г.Порта Вестфаліка, спадарынямі Дорыс Гэцкенгайн і Грэтэ Шнэле наведалі Горадню па запрашэньню абласнога Фонду міру, каб адабраць тыя 30 дзяцей з Ліды (партнэрскага горада Порта Вестфалікі) і вобласьці на аздараўленьне. Паездка ў Нямеччыну адбудзецца напрыканцы ліпеня.

Нямецкія госьці жыва цікавіліся нашым жыцьцём. Дарэчы, В.Кардынал ужо ня першы раз наведвае Гарадзеншчыну. Ён заўважыў, што жыць мы сталі не лепш, выказаў вялікае зьдзіўленьне з нагоды рэферэндуму, які плануецца як акцыя супраць нашай незалежнасьці. Асабліва зьдзівіла спроба замены сымболікі. Госьці з Нямеччыны прывезьлі для Лідзкай бальніцы абсталяваньне, патрэбнае хворым інвалідам.

**М.М.**



## УТРЫМАНЬНЕ АБЫХОДЗІЦЦА Ў МІЛЬЁНЫ

Сёньня мемарыяльны комплекс "Берасьцейская крэпасьць-герой" і музей абароны, ініцыятарам стварэньня якіх стаў, тады яшчэ сакратар Берасьцейскага абкама КПСС, Пётр Машэраў, перажывае значны крызіс, бо дзяржаве ўсё цяжэй утрымліваць у добрым стане грандыёзныя збудаваньні комплексу. Часта псуюцца камунікацыі, якія эксплуатуюцца больш за дваццаць гадоў. Ад мінулага году на тэрыторыі мемарыялу адключана вячэрняя падсьветка, сур'ёзна падумваюць і аб перакрыцьці на начны час падачы газу на Венчы агонь. Мясцовымі ўладамі зьняты гарадзкі маршрут аўтобуса N 12, які хадзіў з аўтавакзала.

Колькасьць наведвальнікаў рэзка скарацілася пасьля "разводу" саюзных рэспублік. Пры плане абслугоўваньня адной тысячы экскурсійных груп, іх ледзь-ледзь у мінулым годзе назьбіралася 903, гэта на 183 групы менш, чым у папярэднім 1993 годзе, што складае крыху больш 52 тысяч чалавек.

У 1994-м годзе на ўтрыманьне мемарыялу затрачана з дзяржбюджэту больш як 300 мільёнаў рублёў.

Як стала вядома карэспандэнту "Пагоні", сёлета, падчас юбілею Вялікай Перамогі над фашызмам, будзе вынесена імя яшчэ аднаго з абаронцаў крэпасьці - Аляксандра Кадачыгава. Нагадаем, што ў мінулым годзе былі ўстаноўлены і занесены на мемарыяльную дошку імёны сяржанта Івана Бялова і Уладзіміра Сімакова. Але большая частка загінуўшых абаронцаў застаецца пакуль невядомымі.

Да таго ж, пройдзе літургія памяці па загінуўшых воінах у Сьвята-Мікалаеўскай царкве на тэрыторыі мемарыяла 9 траўня г.г.

**Л.Я.**

**"ПАГОНЯ"**
Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры передруку спасылка абавязкова.
Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы.
Індэкс 63124.
Фотанабор, афсетны друк.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 1488.
Наклад 10944 паасобнікі.
Нумар падпісаны да друку 20.04.95, у 16.00